
Магілёў у Беластоку → 4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Трыялог у Крынках → 8-9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3200) Год LXII Беласток, 10 верасня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**З 1 верасня дырэктарам Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы стаў Ігар Лукашук, старшыня Рады горада Бельск-Падляшскі і дагэтуль намеснік дырэктара Школьна-Прадшкольнага комплексу ў Нарве, ураджэнец Гайнаўкі.**



# Гайнаўскі белліцэй з новым дырэктарам

Першага верасня ў Павятовым старастве ў Гайнаўцы размаўляю з гайнаўскім старастам Міраславам Раманюком. Спатыкаю там таксама Ігара Лукашука, які афармляе справы, звязаныя з прызначэннем на пасаду дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. З новаабраным дырэктарам паразмаўляю ў гэты сам дзень, але пазней.

— Тэрмін працы Яўгена Сачко на пасадзе дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы канчаўся і згодна абавязваючымі адукацыйнымі законамі наша ўправа мела абавязак абвясціць конкурс на пасаду дырэктара школы. Управа Гайнаўскага павета зрабіла гэта 9 чэрвеня, — сказаў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.

Аднак новы дырэктар на гэтую пасаду быў прызначаны толькі 31 жніўня. Чаму так доўга праходзіла працэдура па выбары дырэктара белліцэя і белгімназіі размаўляў я са старастам Міраславам Раманюком. 18 ліпеня конкурсная камісія, пакліканая ўправай Гайнаўскага павета, выбрала большасцю галасоў, што з двух кандыдатаў на пасаду дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы абірае Ігара Лукашука (атрымаў 7 галасоў, калі на дзейснага дырэктара ліцэя Яўгена Сачко прагаласавала 5 асоб). Аднак управа Гайнаўскага павета вынікі конкурсу адмяніла.

— 28 ліпеня ўправа Гайнаўскага павета прыняла пастанову, што вынікі конкурсу з 18 ліпеня становяцца няважнымі, бо ў камісіі працавалі тры асобы з управы павета, што, згодна з пастановамі Вышэйшага адміністрацыйнага суда ад 2015 і 2016 гадоў, не магло здарыцца. Члены ўправы Гайнаўскага павета раней уваходзілі ў састаў конкурсных камісій, якія вылучалі дырэктараў адукацыйных устаноў, але такое адбывалася таму, што мы не ведалі аб рашэннях Вышэйшага адміністрацыйнага суда. 1 жніўня наша ўправа абвясціла новы конкурс на пасаду дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы на 30 жніўня. У конкурсную камісію мы прызначылі трох працаўнікоў староства ў Гайнаўцы, якія не з'яўляюцца членамі ўправы павета, — патлумачыў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.

Аднак пасля 20 жніўня падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі адмяніў пастановы ўправы Гайнаўскага павета ад 28 ліпеня аб адмене вынікаў конкурсу ад 18 ліпеня і аб абвяшчэнні новага конкурсу.

— Рашэнне падляшскага ваяводы было для нас нечаканым, бо ў падтрымку сваёй пастановы прывёў ён рашэнне Ваяводскага адміністрацыйнага суда ад 2014 года, які дазваляў прымаць удзел у працы конкурснай камісіі па выбары дырэктара школы членам управы павета. Мы ў падтрымку нашага рашэння прывялі пазнейшую пастанову Вышэйшага адміністрацыйнага суда, які ў іерархіі стаіць вышэй за Ваяводскі адміністрацыйны суд. Аднак 30 жніўня падчас пасяджэння ўправы нашага павета мы рашылі пастанову ваяводы Багдана Пашкоўскага не абскарджваць у Ваяводскі адміністрацыйны суд, на што мелі права, але прыхіліся да яе. За такім рашэннем прагаласавала трох членаў нашай управы, а двух выказалася супраць, — заявіў староста Міраслаў Раманюк. — У адпаведнасці з рашэннем ваяводы конкурс на дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, праведзены 18 ліпеня стаў важным. Мы 31 жніўня пастановай нашай управы прызначылі на пасаду дырэктара Гайнаўскага белліцэя і белгімназіі пераможцу конкурсу Ігара Лукашука. 1 верасня пачне ён працу, замяшчаючы на пасадзе дырэктара Яўгена Сачко.

Яўген Сачко сваю працу як дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы закончыў 31 жніўня і 4 верасня стаў працаваць настаўнікам геаграфіі.

— Карыстаючыся нагодай, хацеў я падзякаваць Яўгену Сачко за дваццаціпяцігадовую працу на пасадзе дырэктара Гайнаўскага белліцэя і з 1999 года таксама на пасадзе дырэктара Гайнаўскай белгімназіі (паступова спыняецца яе дзейнасць, як усіх іншых гімназій у Польшчы — А. М.). Яўген Сачко запісаўся ў гісторыі Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы як дырэктар, пад якога наглядам быў высокі ўзровень навучання, — сказаў староста Міраслаў Раманюк.

У размове новаабраны дырэктар Ігар Лукашук запрэзентаваў карціну будучыні Гайнаўскага белліцэя, якую прадставіў членам конкурснай камісіі 18 ліпеня 2007 года.

— Я перад конкурснай камісіяй звярнуў увагу на моцныя бакі асяроддзя, у якім жывуць вучні, і магчымасці іх выкарыстання ў місіі дзейнасці Гайнаўскага белліцэя. Сказаў, што трэба выкарыстаць у дзейнасці школы тое, што вучні жывуць і выхоўваюцца ў двухмоўнай рэчаіснасці, шматнацыянальным і шматкультурным асяроддзі, што павінна быць козырам у дзейнасці белліцэя. Звярнуў увагу на памежны аспект, які можна выкарыстаць у дзейнасці школы, як падрыхтоўку да актыўнасці ў гандлі, міжнародным супрацоўніцтве і турызме. Важныя тут культурныя і прыродныя аспекты Гайнаўскага павета, наша мясцовая культура, нашы традыцыі, гісторыя і непаўторнасць Белавежскай пушчы. Хачу паставіць у дзейнасці Гайнаўскага белліцэя на супрацоўніцтва з нашымі беларускімі арганізацыямі, асацыяцыямі і таварыствамі і гэтыя мае словы ўжо з'яўляюцца запрашэннем, скіраваным да тых арганізацый дзеля супрацоўніцтва з нашым белліцэем. Маю намер паставіць на выкарыстанне журналістыкі як магчымасці здабывання вучнямі ведаў і вопыту. Бачу тут супрацоўніцтва з беларускім тыднёвікам «Ніва», Радыем Рацыя і беларускамоўнай перадачай «Пад знакам Пагоні» на Польскім Радыё Беласток, дзе даецца шматбаковая інфармацыя аб жыцці беларусаў у нашым рэгіёне і ў больш адлеглых месцах. Гэта павінна адбывацца як на ўзроўні чытання вучнямі тэкстаў з беларускай газеты «Ніва» і слухання перадач па радыё, так і на ўзроўні знаёмства вучняў з працай журналістаў гэтых рэдакцый. Бачу таксама супрацоўніцтва нашага белліцэя з Беларускім музеем у Гайнаўцы дзеля вывучэння на практыцы нашай гісторыі, беларускіх традыцый і культуры. Канешне, буду намагацца, каб у нашым белліцэі быў высокі ўзровень навучання, што з'яўляецца галоўнай місіяй працы кожнай школы, — сказаў дырэктар Ігар Лукашук.

Зараз праблемай абодвух беларускіх ліцэяў, як і іншых звышгімназічных школ, з'яўляецца меншы набор вучняў у першыя класы, чым было раней, па прычыне, між іншым, старэння грамадства Гайнаўскага і Бельскага паветаў.

— Я бачу гэтую праблему ў Гайнаўскім павеце, дзе штораз менш вучняў канчае вучобу ў гімназіях, а штораз больш з іх рашаецца працягваць адукацыю ў вялікім горадзе, якім з'яўляецца Беласток. Будзем намагацца як найбольш вучняў заахвоціць да вучобы ў Гайнаўскім белліцэі, а дзеля гэтага трэба будзе дайсці з інфармацыяй да гімназістаў, а ў будучыні да выпускнікоў пачатковых васьмігадовых школ і паказаць ім козыры дзейнасці нашай школы. Будзем гэта рабіць у супрацоўніцтве са школамі Гайнаўскага і суседніх паветаў. Аднак намаганні, каб прыцягнуць у Гайнаўскі белліцэй як найбольш вучняў, не павінны быць перашкодай да супрацоўніцтва з Бельскім белліцэем, можна сказаць, нашым братам, паколькі ў нашых белліцэяў ёсць падобная місія дзейнасці, а ў выніку супрацоўніцтва нашых ліцэяў можна яе лепш рэалізаваць. Бачу я таксама супрацоўніцтва з Пуньскім ліцэем з літоўскай моваю навучання, ад якога можам многаму навучыцца ў галіне адукацыі на роднай мове, культуры і гісторыі ў выпадку моладзі нацыянальнай меншасці, пражываючай у Польшчы. Добра было б наладзіць кантакт таксама са школай беларускай меншасці ў Вільні, — адзначыў дырэктар Ігар Лукашук.

У названых школах нацыянальных меншасцей многія прадметы выкладаюцца на родных мовах вучняў.

— Я двухмоўную адукацыю лічу карыснай. Яна разгортвае здольнасці вучняў і дае большыя магчымасці для іх развіцця. Законы ў Польшчы дазваляюць на двухмоўную адукацыю на польскай і беларускай мовах па выбраных прадметах. Аднак да навучання выбраных прадметаў патрэбны кадры, якія ведалі б беларускую мову, і неабходная воля вучняў і бацькоў, каб увесці навучанне прадметаў на польскай і беларускай мовах. Задача нашай школы — выйсці насустрач іх волі, — сказаў дырэктар Ігар Лукашук.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Апошні аргумент

Порах трэба трымаць сухім. З гэтай даўняй прымаўкай ніхто не стане спрачацца. Асабліва цяпер, у наш такі няпросты з кропкі гледжання бяспекі час. Свет ваюе. Свет здурнеў і ваюе. Штодзённа гінуць людзі. Ужо мільёны ўцекачоў, якія паўцякалі з тых зямель, дзе ідуць баявыя дзеянні, тузаюцца па зямлі і моры, шукаючы свайго месца пад сонцам. І, як аказваецца, знайсці яго не так проста. То там, то тут узнікаюць новыя праявы ўзброенага гвалту. І канца гэтай агрэсіі пакуль што не бачна. Наадварот, агрэсія пачынае праяўляцца ўсё на большай тэрыторыі планеты.

Ды што там звычайная страляніна, да якой ужо ўсе прывыклі настолькі, што нават не заўважаюць колькасці ахвяр. Нават авіяўдары навейшай лётнай зброі сёння ўжо не выклікаюць аніякага здзіўлення. Асабліва пасля заяў Паўночнай Карэі, што яна прыцэльваецца для ўдару па амерыканскай ваеннай базе і для гэтага паспяхова выпрабоўвае ядзерныя і вадародныя бомбы. Ну і ракеты выпрабоўвае, на якіх тыя бомбы павінны быць дастаўлены ў свет правоў чалавека, справядлівых судоў, чэсных выбараў і роўных магчымасцей.

У такой сітуацыі калі ЗША, ці Японія, ці Паўднёвая Карэя стануць праводзіць шырокія вайсковыя вучэнні, ніхто не здзівіцца. Трэба ж неяк адказваць на пагрозы і рэальна рыхтавацца да іх нейтралізацыі. Ніхто не засумняваецца ў неабходнасці такіх вучэнняў у еўрапейскіх краінах з-за супрацьстаяння з Расіяй і не толькі з ёй. І ніхто не здзівіцца вайсковым вучэнням у самой Расіі, улічваючы яе супрацьстаянне не толькі з Захадам, але і з бліжэйшымі суседзямі. Яны збіраюцца ваяваць. Абараняцца ці нападаць гэта ўжо справа дзясятая. Галоўнае, што збіраюцца.

А вось што на іх ваенных вучэннях робіць Беларусь, патрабуе асобнага аналізу. Прычым робіць на сваёй уласнай зямлі, дзе беларусы могуць і маюць права праводзіць свае вучэнні хоць кожны дзень, не патрабуючы нічыёй апекі. Дык не жа ж. На гэтую ж сваю зямлю незразумела навошта ўпусцілі вялікую колькасць замежных ваякаў і навейшую баявую тэхніку суседняй дзяржавы. І зараз увесь свет ломіць галаву, ці пойдуць гэтыя войскі пасля вучэнняў да сябе на радзіму, ці застануцца тут як сталы кантынгент войскаў Расійскай Федэрацыі, ці можа застануцца тут у выглядзе незразумелых зялёных чалавечкаў, ці застануцца пераапранутыя ў беларускую вайсковую форму, ці застануцца як адпускнікі і проста ўзброеныя прадстаўнікі рускага міру, ці зробяць у Беларусі вайсковы пераварот, ці пойдуць адсюль, прыкладам, у якія-небудзь суседнія краіны, ці... Ну, варыянтаў тут безліч. Усіх і не пералічыш.

Для расійскіх войскаў, якія зараз стала акапаліся ў Крыме і маюць досвед баявых дзеянняў у Грузіі і не толькі там, прашчупаць беларускую зямлю для падобных задач справа вельмі карысная. Ну ўявіце сабе, што Беларусь, як некалі Украіна, вырашыць абраць еўрапейскі кірунак развіцця. Ну як можна самым нешта выбіраць, калі на тваёй тэрыторыі чужыя войскі? Ці калі гэтыя войскі ўжо правялі шырокамаштабныя вучэнні, як гэтую тэрыторыю ў разе чаго прайсці з усходу на захад і з поўначы на поўдзень за такі кароткі час, што і мабілізацыю абвесціць не паспееш.

Але ў беларускім ваенным штабе і ў беларускіх палітычных кабінетах такіх варыянтаў развіцця напэўна не баяцца. А калі і баяцца, то значна менш, чым украінскага развіцця падзей або ўзнікнення ў галовах беларусаў нейкай міфічнай краіны, тыпу Вейшнорыі (выдуманай дзяржавы, якая згодна з легендай вучэнняў «Захад-2017» суседнічае з Беларуссю), адкуль дэмакратычныя ідэі з іх прагай да правоў чалавека, справядлівых судоў, чэсных выбараў і роўных магчымасцей могуць распаўсюдзіцца на ўсю Беларусь, і тады наша краіна, як і ЗША, стане патэнцыйнай мішэнню Паўночнай Карэі.

Як казаў класік, гэта было бы вельмі смешна, каб не было вельмі сумна. Беларусь з гэтага моманту можа быць рэальна ўцягнутая ў чужыя канфлікты, прычым між сваёй волі, бо яе войска зараз можа разглядацца іншымі краінамі як частка ўзброеных сіл суседняй дзяржавы.

Ну а для свайго насельніцтва ўлада губляе апошні аргумент на сваю карысць. Яшчэ зусім нядаўна гэтым аргументам было тое, што Беларусь, хоць і не багатая, але нейтральная мірная краіна, якая не ўцягнецца ні ў якія ўзброеныя авантуры.

❖ Віктар САЗОНАЎ

# Сустрэча светаў?

Кожны ў сваім уласным свеце мудрэц. Ён ведае, як выжыць, як рухацца. Ведае правілы сфармаваныя Прыродай ці грамадствам, часткай якога ён з'яўляецца. Ён адаптаваўся да свайго асяроддзя — прыроднага і чалавечага. Жыве. Перамагае. Хай гэта будзе чалавек з забытага вострава ў Палінезіі, апрануты толькі ў насцегнавую павязку і з птушынай косткай у насавой перагародцы. Або жыхар пушчанскай вёскі... Тут я прывяду гратэскна-стэрэатыпны вобраз: у абмызганай вушанцы і валёнках, мужык ад дзядоў-прадзедаў, па меры неабходнасці лесаруб, талковы цясляр, эксперт па прыродзе і адначасова браканьер; прытым, вядома, ён «чытаты-кúматы», але хутчэй паўторна непісьменны, чым чытач Пруста. У абодвух выпадках — «мудрэц» паводле асобных светаў і ў той жа час, напрыклад для Прышэльца з сучаснай Еўропы, з еўрапейскай Варшавы, з вялікага Беластока — прымітыўны, забабонны, цёмны «дзікун». Толькі што да ўсяго павінна прымяняцца адпаведная мерка. Аб'ём да аб'ёму, вага да вагі. Хоць часам і гэта простае правіла падводзіць, калі змяняем кагнітыўны пункт гледжання. Далёка не трэба шукаць — вага сэрца слана непараўнальная з вагой сэрца мышы. Але статыстычна, што ні дзіўна, сэрцы абодвух гэтых істот за ўсё сваё жыццё б'юць аднолькава. Падобна таму, як сэрца чалавека ці рэптыліі. Калі кіруе гэтым нейкае правіла, дык якое? Але гэта так у дужках. У любым выпадку, мера меры няроўная. Нават калі Прышэлец ведае пяць моў, скончыў чатыры факультэты і дасягнуў дзвюх прафесур, у прасторы палінезійца ці пушчанскага мужыка з'яўляецца чужым уключэннем, бездапаможным вырадкам. Ён ніхто. Без сваёй культурнай і цывілізацыйнай базы Прышэлец становіцца ў чужым незнаёмым свеце праславутым сланом у складзе з фарфорам. Але адкуль «дзікун» мог бы чэрпаць веды аб складанасці вышэйпрыведзенай метафары? Проста назваў бы Прышэльца дурнем.

Чужыя прасторы Прышэльца і «дзікуна» не перакрываюць адна адну, хоць яны могуць мець некаторы агульны назоўнік. У любым выпадку нельга параўнаць іх адну з адной без увагі на той факт, што кожная з іх самадастатковая. Поўная ў тым сэнсе, што была сфарміравана з элементаў характэрных толькі ёй і для яе. Прыкладанне сваёй уласнай меры да іншай метрыкальна прасторы з'яўляецца памылкай. Бо ці наша мерка лепшая, чым іншыя? Чым ёсць аб'ём, чым вага?

Памылкай з'яўляецца высмейванне прыхільнікаў ПіСу. Памылкай з'яўляюцца таксама кпіны над яго сапернікамі. Некаторыя высмейваюць іншых, абражаюць, прыніжаюць, знішчаюць і добра ім з гэтым. Хто адчувае сябе Прышэльцам, хто «дзікуном», усё адно. Хто «дурнем», хто «мудрацом» — таксама. А тыя і іншыя жывуць у сваіх уласных светах, непараўнальных. Яны маюць толькі адну рэч — супольную тэрыторыю. Дарэчы, і гэта становіцца ўсё больш і больш асобным. Таму што кожны сёння жыве ў Польшчы са сваёй асобнай яе Гісторыяй, Культурай і нават цывілізацыяй. Кантынент Польшча, які быў адзін агульны для ўсіх грамадзян, сёння трашчыць па швах, стаўшы архіпелагам тысяч, калі не мільёнаў выспаў. Некаторыя насяляюць «сапраўдныя палякі», іншыя левакі і іншыя цудакі, вернікі і няверуючыя, беларусы і ўкраінцы, праваслаўныя і каталікі. Нічога, што прасторы, якія займаюць, усё больш і больш падзелены. Усё часцей ізаляваныя адны ад адных. І ўсё больш і больш чужыя. Чужыя з-за створаных жыхарамі сваіх уласных касмалогій, рытуалаў, звычаяў і легенд. Гэта адзіны спосаб выжыць на астравах, ізаляваных адзін ад аднаго — уводзіць сябе ў іх абмежаваныя межы, называючы ўсім светам. У такой рэальнасці, аднак, можна толькі рэдуплікаваць сваю ўласную суб'ектыўнасць, замест таго, каб яе творча развіваць.

Архіпелаг асобных астравоў становіцца фактам. Тым фактам, які быў узняты СМІ як анекдот па-за межы зразумелага сюжэту. Асабіста я ў гэтым абвінавачваю СМІ, незалежна ад таго, хто каму сімпатычны. Пачынаючы ад тэлебачання і радыё, праз інтэрнэтныя парталы, да больш ці менш вядомых газет. Яны стварылі гэтую пустую, але поўную іскраў прастору, у якім ані Прышэлец, ані «дзікун» не адчуваюць сябе ўласнікамі, але кожны з іх узурпуе права на ўласнасць. І адзін, і другі, я лічу, з'яўляюцца ахвярамі гэтага медыйнага стваральніцтва, паколькі сам медыйны пераказ гэта крэацыя іх раздвоенай свядомасці, якая рашуча адварочваецца ад сваёй чалавечнасці.

❖ Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Школьныя кары

„Witaj szkoło" — такі плакат на польскай мове над дзвярыма пры ўваходзе ў школу гэта ўспамін майго дзяцінства. Маем верасень і пачынаецца новы, чарговы, навучальны год. У тым жа самым месцы два месяцы назад красаваўся доўгачаканы вучнямі надпіс „Żegnaj szkoło", толькі з адной розніцай. На другім былі яшчэ размаляваны найчасцей вучнёўскай рукой і сэрцам разнаколерныя кветкі і многа сонек. А першы лозунг без аніякіх упрыгожанняў быў найчасцей толькі самым кароткім паведамленнем для нас, жэўжыкаў, што пара сваю празмерную энергію накіраваць у рэчышча вучобы і школьных абавязкаў, а таксама школьнай дысцыпліны. Тадышняя дысцыпліна, гледзячы з сённяшняга пункту гледжання, была б прычынай для скарг бацькоў і скандалаў, звязаных з прымяненнем настаўнікамі фізічнага і псіхічнага здзеку да неўтаймаванай дзетвары. Па той прычыне некаторыя настаўнікі не папрацавалі б пэўна тыдня, а былі б ужо выкінутымі з працы за „ручное ўбіванне ведаў у галаву".

Але так па чарзе ўспамінаю і прыгадваю тыя пакаранні, якія выпалі таксама на долю і ніжэйпадпісанага. Самым лёгкім пакараннем было пастаўленне на калені. Як жартавалі, каб выціраць ад пылу падлогу. У найчасцейшых карыстальнікаў гэтай кары жартоўна правяралі ці выпадкова не працерліся ўжо нагавіцы на каленях. А за пыл на нагавіцах дома дасягала бацькоўская рука справядлівасці. Так часта і паўсюдна прыходзілася пакутаваць у рамках каленнага закона.

Ведаю два віды такога пакарання. Першы, трэба было стаяць на каленях каля лаўкі. Другі, калі пані настаўніца такога маладога віноўніка (найчасцей за непаседлівасць і выкручванне ў парце) брала за каўнер і ставіла на калені ў кут залы, або непасрэдна пад школьную дошку. Стоячы на каленях нельга было адварочваць галаву і азірацца на сяброўаднакласнікаў. Таксама не дазвалялася абаперці свой азадак, як пры капанні бульбы, на ногі ніжэй каленяў. Стаяць на каленях выпрастаным — гэта пасыл гэтай гімнастыкі. Зразумела, лягчэй было стаяць каля лаўкі. Можна было незаўважна абаперціся аб яе і пры нагодзе далей даказваць з аднагодкамі. Кут залы ці дошка — справа цяжэйшая, але не безнадзейная. У куце можна было дэталёва разглядаць структуру дрэва, фарбы ці бетону. Занятак для рук заўсёды можна было знайсці — адкалупаць незаўважна кусочак тынку было справай значна аблягчаючай час пакарання. Горш было калі ты трапіў на каленях пад дошку. Тады пакараны знаходзіўся ў полі зроку і рук настаўніцы. Але тут можна было найчасцей пагуляць з крэйдай, якую незаўважна падбіралі дзеля фокусаў. Пакараныя крышылі яе на падлогу або крэмзалі крэйдай вакол сябе. Ну і вышыня майстэрства: калі хтосьці з сяброў адказваў акурат пры дошцы, то незаўважна можна было яго ўшчыпнуць ці пацягнуць за нагу ці нагавіцы. У маіх часах не было ўжо стаяння на каленях на гароху, але такая страшылка пра школьныя гады была ў расказах ранейшых навучэнцаў.

Частай формай дысцыплінавання хлапечай дасціпнасці, якую прымянялі некаторыя настаўнікі, было цяганне за вушы і валасы. Некаторыя з тадышніх паняў і панаў, здаецца, маглі мець нейкія садысцкія замашкі. Часамі проста без дай прычыны, асабліва на перапынках, вучань раптам быў злоўлены за вуха і так выкручаны, што ад болю не раз і не два кожны з нас праслязіўся. Адзін са спосабаў круціць за вушы назваў я нават „сячкарняй". „Сячкарня" сустракала за большыя правіны, кшталту хлапечай разборкі ці нейкая матэрыяльная, школьная патрата кшталту разбіты вазон з кветкамі. Менавіта тады нашы двое вушэй знаходзіліся ў дзвюх настаўніцкіх руках і распачыналася сапраўдная язда. Памаленьку раскручваліся вушы, ад малых да вышэйшых абаротаў. А мы раслі і раслі ўсё ўгару і не хапіла ўжо пальцаў, каб трымацца падлогі. Пасля такой „сячкарні" на доўгі час мы былі дзіўна ўціхамiранымі і здалёк абміналі кожнага настаўніка.

Не было ўжо ў мой час непасрэднага прымянення дубінак на спіну, што пры санацыйнай адукацыі майго бацькі было нормай. І лінейкай не білі ўжо ў рукі так, што яны аж пухлі.

Усё гэтае засталося толькі адным з успамінаў з дзяцінства. Найважнейшыя аднак былі веды, якія далі нам настаўнікі, каб адкрыць нам дарогу ў свет.

❖ Яўген ВАПА



# Свята бульбы

Калісь-калісь, у прыцярушаную сівізной часу даўніну, недзе каля пятнаццаці гадоў таму, быў я ў Моньках на тадышнім Свяце бульбы. Тады было там маштабнае мерапрыемства на вялікім пляцы, была прэзентавана магутная на той наш час сельскагаспадарчая тэхніка. Падаўся я ў Монькі і цяпер, спадзяючыся пабачыць мерапрыемства падобнага маштабу. Аднак сёлетняе Свята бульбы нагадвала сціпленькі народны фэст. Адзін пралёт вуліцы Непадлегласці перад будынкам Староства займалі сціпленькія палаткі з буклетнымі прапановамі і нямногія ларкі з тыповай для народных фэстаў прапановай. Бульбяную кулінарыю прапанаваў толькі адзін...

Пабачыўшы такое, пабыў я там нядоўга. На мабільнай эстрадзе, пастаўленай упоперак вуліцы, прэзентаваліся мясцовыя, павятовага абсягу, аматарскія вакальныя калектывы. Публікі, у даабедннюю пару, было мала, а калі пасыпаў дождж, стала яе і зусім мала. Магчыма, што пазней, пасля абеду, з'явілася яе больш.

Згадаў я пра колішнюю прэзентацыю тэхнікі. Сёлета адзін пенсіянер ад Радзілава, што ў Граеўскім павеце, прэзентаваў свой рукадзельны транспарт — выплеценыя вікліная на металічных каркасах самалёт і запрэжку з акумулятарнай цягай...

Чаму ў Моньках ладзіцца Свята бульбы — не ведаю. Магчыма таму, што Моньkаўскі павет, паміж Бобрай, Бярозаўкай і Нарвай, сваім агульным абрысам нагадвае бульбяны клубень. А можа таму, што гісторыя горада так жа незвычайная, як і гісторыя бульбяной вандроўкі па шырокім свеце.

А пачалося ўсё з Асавецкай крэпасці і Берасцейска-Граеўскай чыгункі. Вось для транспартнага забеспячэння тылоў крэпасці была ў Моньках устаноўлена станцыя. А калі тая крэпасць выканала сваю гістарычную місію, тады з матэрыялу ад казарменных і складавых будынкаў быў пабудаваны ў Моньках касцёл. А калі ў 1950-х гадах устанаўлівалі ў згаданым раней міжрэччы павет, тады і яго сядзібай стала распаложаная ў яго цэнтры парафіяльная вёска з чыгуначнай станцыяй. І так пайшло-паехала.

Вандроўка бульбы была больш складанай. У многіх крыніцах згадваецца, што ў Еўропу прывёз яе англійскі пірат Фрэнсіс Дрэйк, аднак у гэтым сумняваюцца нават самі англічане. Найбольш верагодна, што бульбу з паўднёваамерыканскіх Андаў прывезлі ў Еўропу іспанскія канкістадоры Новага Свету. А ў Еўропе яе, бульбы, не надта хацелі.

У ліку апанентаў да бульбы сталі духоўныя чыны. Некаторыя з іх сцвярджалі, што калі бульба не згадваецца ў Біблії, то яна не мае бласлаўлення для спажывання. Нейкі час за бульбай хадзіла чутка, што яна з'яўляецца афрадызіякам, таму праведнікі забаранялі яе дзеля прадухілення ад грэшнай распусты. Яшчэ іншыя меркавалі, што калі плады бульбы растуць у зямлі, не на сонцы, то яны з'яўляюцца носьбітамі цемравых пякельных якасцей. Выгляд бульбы наводзіў падазрэнне, што яна выклікае праказу. У бульбы не было таксама захапляючага смаку. Радзімай бульбы былі тыя рэгіёны Паўднёвай Амерыкі, дзе дзень і ноч парытэтныя, у Еўропе ж, у зоне памяркоўнага клімату, у летні перыяд, у перыяд вегетацыі, дзень доўжыцца значна больш, таму ў бульбы раслі зялёныя сцёблы, а клубні аставаліся малымі. Толькі новыя пароды пазнейшага вываду сталі даваць задавальняючы плён...

Быў у Еўропе час, калі бульбу лічылі аздобнай раслінай, кветкамі якой упрыгожвалася французская каралеўская сям'я. Цар Пётр І паслаў з Нідэрландаў у Расію некалькі мяшкоў бульбы, але тамашні народ стаў збіраць не зямныя клубні, толькі тыя, што выраслі з кветак; тады бульба ў Расіі не прынялася. Зыгмунт Глогер быў пісаў, што яшчэ ягоны прадзед, „szlachcic starej daty, nie pozwalał więcej uprawiać kartofli nad kilka zagonów w ogrodzie, jako rośliny dającej pokarm niezdrowy i mitręgę czasu w skrobaniu”.

Аднак бульба паволі пачала выяўляць свае козыры, якіх не было ў традыцыйных культурных еўрапейскіх раслін. Матросы, якія падаваліся ў далёкія плаванні, хварэлі цынгой. Неспадзяваным паратункам ад гэтай бяды аказалася бульба, а дакладней — прысутны ў ёй вітамін С. А на сушы бульба дабілася яшчэ адной перамогі — з яе раслiннай масы можна было атрымаць больш кулінарнага прадукту, чым з традыцыйных злакавых раслін. Еўрапейцы, асабліва незаможныя, да прызнання бульбы жылі на мяжы голаду; бульба стала ратаваць іх ад гэтага недастатку — у палове XVIII стагоддзя больш паловы ірландскага насельніцтва харчавалася бульбай.

У той жа час бульба паказала ўжо сваю незвычайную якасць не толькі ў мірны час, але і ў ваеннае ліхалецце. Войска ў той час не мела тылоў, якія забяспечвалі б іх харчамі — войска харчавалася тым, што забірала ў насельніцтва. А забірала не толькі жывёлу на мяса, забірала і ўсялякае зерне. Насельніцтва аставалася без нічога — на галодную смерць. Эміль Керскі ў сваім даведніку быў пісаў: „Bielsk, miasto stołeczne ziemi tegoż nazwiska w w[oje]wództwie podlaskiem, nad rzeką Białą, która uchodzi do Narwi. Niegdyś ludne i szeroko drewnianemi domami zabudowane, r. 1495. otrzymało od Aleksandra w. ks. litewskiego prawo magdeburskie, r. 1563. liczyło domów z juryzdykcyą zamkową 830. Lustracya tegoż miasta z r. 1576. wzmiankuje, że się w niem znajdowało 205. rzemieślników i innych osób nierólniczym przemysłem trudniących się. Z lustracyi zaś za Jana Kazimierza r. 1664. pokazuje się, iż w całem mieście było osiadłych domów tylko 48, pustych 7, a placów na których przedtem były domy 741. Taki był skutek zgubnych dla Polski wojen szwedzkich. Od tych też czasów Bielsk niemógł się podnieść. Braki daleko w pole zachodzące świadczą jeszcze o dawniejszej jego rozległości”.

А з бульбай было інакш — войска яе не надта магло забраць; бульба аказалася і ў вайну паратункам ад галоднай смерці. Вось таму прускія каралі ў XVII і XVIII стагоддзях, якія вельмі дбалі пра сваю армію, якія любілі паваяваць, задбалі таксама і пра насельніцтва на выпадак войнаў. Вось яны і ўвялі абавязак садзіць бульбу ў сваёй краіне — гаспадарам, якія б не падпарадкаваліся каралеўскаму загаду, пагражала абразанне вушэй і насоў; хто ведае, ці тыя пагрозы не былі ўваскрэшаны царскімі прапагандыстамі для выклікання ў нас бежанства. І бульба ў Прусіі прынялася. Лукаш Галэмбёўскі: „Zjawiły się w Polszcze kartofle za Augusta III w ekonomiach królewskich, saskimi rolnikami osadzonych, którzy je z sobą przynieśli. Długo Polacy brzydzili się niemi, za szkodliwe je poczytywali zdrowiu, wmawiali to w pospólstwo Xięża nawet. Kiedy ujrzano, że w gdańskich żuławach, u Holendrów i szwabów, osiadających po różnych miejscach, kartofle rodziły się obficie, jedynym prawie były ich pokarmem, zabespieczały od głodu, rozliczne mieć mogły przyprawy i nie mało rozmaitych dawać potraw, przeszły do pogranicznych tym osadom rolników, później do dalszych, upowszechniały się coraz gęściej, i na końcu panowania Augusta III już były znane w Polszcze, w Litwie i na Rusi; dziś zarówno kmiotka jak szlachtę żywią, niepogardza niemi i wyższa klassa, robią z nich mąkę, wódkę, wino, cukier”. А пасля ж трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай тутэйшыя землі апынуліся пад прускім уладаннем, тады ж, мабыць, і бульба з Прусіі масава прывандравала на нашы палеткі, хаця спачатку лічылася раслінай „dającej pokarm niezdrowy i mitręgę czasu w skrobaniu”. Можа таму яна не надта прынялася ў Расіі, калі загадала яе там садзіць царыца Кацярына ІІ; поспех далі толькі загады цара Мікалая І, але ж у той час бульба апанавала амаль усю Еўропу.

Распаўсюд пажыўной бульбы выклікаў рост насельніцтва ў Еўропе. У 1750-1800 гадах насельніцтва нашага кантынента ўзбуйнела са 140 мільёнаў да 190 мільёнаў чалавек. У 1850 годзе ў Еўропе было ўжо 266 мільёнаў народу, а ў 1900 чатырыста мільёнаў. І той разбуйнелы народ не меў чым займацца. Лішак рабочых рук прывёў да зніжэння заробкаў і людзі зноў пачалі галадаць. Еўрапейскі народ пачаў шукаць сабе новае месца — пачалася масавая эміграцыя еўрапейцаў у Новы Свет...

А ў Новым Свеце тыя прышэльцы не склалі рук. Вывелі новыя пароды бульбы, якія сталі даваць стандартныя клубні. Клубнямі тымі можна было загружаць машыны, якія seклі іх на стандартныя скрылёчкі, падсушвалі, падтлушчвалі, падперчвалі, падсольвалі — каб кожны скрылёчак выглядаў і смакаваў аднолькава. А пазней стандартныя калькасці загружалі ў пакецікі... Камбінацыя крухмалу, тлушчу і солі стала неабходным смакоццем, чыпсы сталі адным з сімвалаў масавай кансумпцыі, як кока-кола, як пілюлі ад усіх хвароб...

Яшчэ не так даўно ласункам была бульба спечаная ў вогнішчы, са скрылёчкам соленай саланіны. А цяпер і вогнішча не трэба распальваць. Хопіць зайсці ў любую спажывецкую краму, на заправачную станцыю, на прыходскі фэст — бульбы там удосталь, з тлушчыкам і са спецыямі. У прываблівых бліскучых упакоўках. Ад Паўночнага да Паўднёвага полюса, па ўсёй экватарыяльнай расцягласці.

Вікіпедыя: „XIX ст. стала часам шырокага распаўсюджання новай агракультуры на беларускіх палетках. Калі ў Гродзенскай губерні ў 1822 годзе было сабрана 7,1 тысяча чвэрцей бульбы, то ў 1827 годзе ўжо ў 100 раз болей. У справаздачах Мінскай і Віцебскай губерняў за 1828 год адзначалася, што бульба з'яўляецца «пособием к продовольствию... родится в изобилии... с успехом повсеместно здесь разводится». У справаздачы Гродзенскай губерні за 1840 год адзначалася: «картофель занимает первое место в числе возделываемых ... овощей, способствует продовольствию народа, прокормлению скота и удобрению полей». У гэты ж час стравы з бульбы становяцца надзвычай важным складнікам харчавання беларускага народа. Іменна ў гэты час бульба становіцца пануючай палявой культурай, *другім хлебам*, хаця не будзе перабольшваннем сказаць, што для беднейшых сялян яна была ўвогуле ці не адзіным і першым хлебам”.

Хлебам нашым надзённым на цэлы свет. Свята бульбы ў нас па сутнасці штодзень. Бо ж яна, так як у Моньках у свой святочны дзень, у кожнай спажывецкай краме, на кожнай заправачнай станцыі... Завітала яна яшчэ раз да нас, чыпсамі, акружыўшы свет. І можа яшчэ будзе завітваць, у іншай іпастасі. Будзе кружыць вакол Зямлі. Як нябеснае свяціла. А свяцілы ў Пісанні прысутныя...



Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Таленты сярод нас

**Вера Мацюка** — ураджэнка Нараўкі Гайнаўскага павета, вельмі любіла рысаваць з самых ранніх гадоў жыцця. Калі вучылася ў Пачатковай школе ў Нараўцы, яна дарыла свае рысункі сяброўкам, ахвотна размалёўвала школьныя насценгазеты. Адна з настаўніц захаплялася яе эскізамі ды рысункамі і раіла ёй пайсці вучыцца ў Супрасльскі мастацкі ліцэй. Атрымалася інакш. Яна закончыла Эканамічны тэхнікум у Бельску-Падляшскім і працавала бухгалтарам ажно да выхаду на пенсію. Свайго любімага занятку — рысавання — не пакінула.

Спадарыня Вера жыве ў кватэры ў блоку па вуліцы Пілсудскага ў Гайнаўцы. Мае тут асобны ясны пакой — майстэрню для творчай працы, а ў ім — каля 60 цікавых карцін розных фарматаў. Яе рысункі маюць у сваіх кватэрах, між іншым, дзеці і ўнукі, яе блізкія і далёкія знаёмыя, мае іх яе сястра Вольга Максімюк, якая жыве ў Новым Ляўкове. Спадарыня Вольга таксама мае талант да рысавання, а ўжо найлепш удаецца ёй разьба ў гліне. Яна — скульптар-мастак і ўжо шмат гадоў вядзе заняткі па разьбе ў святліцы ў Старым Ляўкове. У кватэры Вольгі Максімюк я бачыў дзве прыгожыя карціны яе сястры Веры. Адну з іх я хацеў бы мець у сваім гасцінным пакоі ў Новым Ляўкове. Я і зараз, здаецца, бачу яе незабыўную. Яна прыносіць лепшы радасны настрой, уміг ачароўвае. Была таксама адна карціна гаспадыні дома.

Варта дадаць, што многа матчыных карцін упрыгожвае дом сына спадарыні Веры ў пушчанскай вёсцы Капіташчына. Ён вядзе там агратурыстычную кватэру. У гэтую маляўнічую ваколіцу любіць прыязджаць мастачка. Яе захапляе цудоўнае акружаючае наваколле, дзе пачынаецца адвечная пушча і дзе красачныя сонечныя сенажаці ды лугі над дзікай завілістай рэчкай Нараўкай і дзе такое чыстае празрыстае паветра! Не дарам жа ў Нараўчанскую гміну штогод прыязджаюць на г.зв. пленэры айчынныя і замежныя мастакі. Яны тут адчуваюць сябе найлепш. Тутэйшыя краявіды запаланілі іх сэрца і душу.

Вера Мацюка найбольш рысуе самых розных кветак, якія растуць вясной і летам у полі, лесе, на лузе і над ракою. Яна малюе пейзажы пушчанскіх ваколіц і Белавежскай пушчы. У верасні будзе рысаваць залатую восень. Заказалі ў яе такую карціну з відам якраз гэтай пары года.

Я хацеў зрабіць здымак гайнаўскай мастачцы, але яна не згадзілася. Скромнічае. Моў, я яшчэ не заслужыла здымка ў часопісе дый яшчэ прыйдзе той час.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Мала, але цікава...

Паводле ГУС на Гайнаўшчыне на дзень 30 чэрвеня 2014 года пражывала 45 168 жыхароў, у тым ліку 23 254 жанчын (51,48%) і 21 914 мужчын (48,52%). У горадзе Гайнаўцы пражывала 22 808 жыхароў (50,50% ад агульнай колькасці насельніцтва павета), у тым жанчын 11 980 (26,52%) і мужчын 10 828 (23,97%). У сёлах жыве 22 360 чалавек (49,50%): жанчын — 11 274 (24,96%) і мужчын — 11 086 (24,54%). Каля трыццаці тысяч чалавек (67%) назвала сябе праваслаўнымі, якія прыналежалі да дваццаці сямі прыходаў, у тым ліку трох у горадзе Гайнаўцы. Каталікі складалі 25% і гуртаваліся ў сямі парафіях. Апошнія 8% гэта пратэстанты, мусульмане, яўрэі ды ўніяты. Каля 18 400 асоб (41%) атаясамлівалася з беларускай нацыяй, украінцамі прызнала сябе 450 чалавек (1%) і столькі ж — 450 чалавек (1%) — прызналася да іншай веры і веравызнання.

**(ус)**

# «Сіняя-сіняя» ў Беластоку



фота: www.facebook.com

Фестываль «Усход культуры — іншае вымярэнне» пачаўся ў Беластоку ў апошні дзень жніўня. Міжнароднае мерапрыемства падзелена на шэсць вымярэнняў — музыку, тэатр, кіно, мастацтва, грамадскасць і моду. Выступілі мастакі з Арменіі, Азербайджана, Грузіі, Малдовы, Украіны і Беларусі. З Беларусі — моцны акцэнт — спектакль «Сіняя-сіняя» Магілёўскага абласнога лялечнага тэатра. Яцак Маліноўскі з Беластоцкага тэатра лялек паінфармаваў: «Гэта вельмі свежы спектакль, бо напрыканцы мінулага сезона была прэм'ера. Гэта манадрама ў рэжысуры творцы маладога пакалення Ігара Казакова. Вельмі цікавая асоба, якая спрабуе стварэць вялікі тэатр, які схіляе да больш глыбокіх роздумаў. Ужо ведаем стыль працы беларускага рэжысёра Ігара Казакова, ставіў ён у БЛТ з беластоцкімі акцёрамі «Казку пра рыбака і рыбку» — вельмі простую, мудрую і трапную гісторыю сквапнасці, зразумелую для кожнага гледача. Цяпер ён падрыхтаваў спектакль для дарослых на аснове знакамітага апавядання Уладзіміра Караткевіча — вельмі хвалюючага, кранаючага розныя струны, уздзейнічаючага на эмоцыі». Артыст не толькі распавядае ды кіруе лялькамі, але малюе на шкле пяском, ствараючы не так рэальныя карціны, колькі зменлівыя міражы і мроі. Пятрок паказвае нам тое, якой у яго памяці засталася тая Сіняя-Сіняя, з зялёнымі лугамі, вясёлкай і спяваючымі птушкамі. Зазірнуўшы на іншую старонку ўспамінаў, чуем, як маці спявае калыханку дзіцяці, быццам нашаму герою ў дзяцінстве. Спектакль будуецца на змене дыялогу Пятрок-Джаміля і ўспамінаў самога героя, што выклікае ў гледача адчуванне таго, што ён бачыць міраж: паўстаў адзін успамін, затым вяртанне ў рэальнасць, і зараз жа іншы міраж...

«25-га ліпеня 1880 года. Вялікая Паўночная Сахара. Іх засталося толькі двое: маленькая дзяўчынка Джаміля і Пятрок Ясюкевіч, былы паўстанец, былы Беларус, былы Чалавек... Чалавек без яды, без вады, без Радзімы». Час і прастора распадаецца. Усплываюць і змешваюцца карціны мінулага і міражы, утвараючы мазаіку сцэн. Знаходзячыся паміж галюцынацыяй і фізічнай рэальнасцю, герой робіць спробы рэканструкцыі падзей свайго жыцця і ўсведамлення іх. І вось на пяску з'яўляюцца лічбы — 1864. Адкрываецца скрыня ўспамінаў, а ў ёй — косці загінуўшых. І Каліноўскі на шыбеніцы. Нібы ўбачыўшы яго думкі, дзяўчынка просіць расказаць аб роднай зямлі... Вярнуцца... Невядома адкуль на сцэне з'яўляецца пара чорных ботаў, якія топчуць родную зямлю. І пара цацачных машынак, не кібітак, а «чорных варанкоў». Машынкі не з дзевятнаццатага стагоддзя. Гісторыя паўтараецца. Зноў гвалт, шыбеніцы, прыбіты народ. Брат паўстаў на брата, бацька — на сына... Яшчэ да пачатку спектакля глядач чуе маналог-разважанне аб сучасным чалавеку, гісторыі і пра тое, што «хто не памятае свайго мінулага, асуджаны на тое, каб перажыць яго зноў».

Праца над монаспектаклем распачатая была яшчэ ў 2016 годзе. Яго планавалі прадставіць гледачу ў мінулым лістападзе, але па тэхнічных прычынах прэм'ера была перанесена. Рыхтаваў новую пастаноўку галоўны рэжысёр тэатра Ігар Казакоў. Галоўную ролю ў монаспектаклі іграе вядучы майстар сцэны тэатра лялек, лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі Мікалай Сцешыц, заслужаны майстар сцэны. «Гэта маналог-споведзь, які прадстаўляем з дапамогай пяску. У аснове сюжэту гісторыя пра душэўную прыхільнасць да месца нараджэння, якую можам не адчуваць і ўсведамляць. Але часам трэба страціць, каб зразумець, што меў», — расказваў пра пастаноўку дырэктар тэатра Уладзімір Андрэенка.

Дзеянне спектакля адбываецца ў пустыні, у якой згубіліся дзяўчынка Джаміля і Пятрок Ясюкевіч — былы паўстанец. Каб адцягнуць маленькую спадарожніцу ад пакут смагі, ён распавядае гісторыю-казку пра сваю радзіму-рай. Ад спёкі час і прастора распадаецца — карціны мінулага і міражы пераплятаюцца. Знаходзячыся паміж галюцынацыяй і фізічнай рэальнасцю, герой робіць спробы рэканструкцыі падзей свайго жыцця і ўсведамлення іх. Але яны ўвесь час разбіваюцца бязлітасным ворагам — пяском, усё больш хапаючым іх у палон.

На сцэне — адзін акцёр, Мікалай Сцешыц, куфры, лялькі, сумёты з пяску. І экран, на якім на нашых вачах адбываецца стварэнне сцэнаграфіі галоўным героем. Акцёр пяском на шкле высыпае пясчаныя наносы, вярблюдаў, міражы аазісаў. Праз момант малюнак знікае, але мы ўжо ў сярэдзіне гісторыі Петрака, апошняга члена навуковай экспедыцыі, былога вучня Віленскай гімназіі, былога беларуса, былога паўстанца, былога чалавека, трупа без вады, без айчыны — як ён сам сябе называе. Цяпер ён памірае ад смагі ў пустыні. Пасля наезду на экспедыцыю выжылі толькі ён і тутэйшая васьмігадовая дзяўчынка. Пятрок пачынае гаварыць пра сябе і пра сваю радзіму, з якой ён мусіў уцякаць у 1864 годзе. Акцёр выхоплівае з пяску розныя куфры, з іх іншыя лялькі. Пагружаецца ва ўспаміны. Хаця невядома дзе яны канчацца і пачынаюцца галюцынацыі. Галасок дзяўчынкі за кадрам ставіць Петраку розныя пытанні. Гэта ў ім выклікае лавіну эмоцый, нястрымнай тугі па блакітна-блакітнай вадзе, зялёнай радзіме. У гледачы таксама азываюцца розныя струны ў душы і ўсведамляе ён розныя пытанні, пра якія звычайна штодзень ён не думае. Гэта пачуццё страты, тленнасці жыцця і ідэй, прамінання. «Вяртанне. Толькі вяртанне. Няхай там нікога няма. Камусьці трэба пачаць... Ён вытрымае тут і два, і тры дні. Ён вытрымае тут... колькі спатрэбіцца. Ён не можа не зрабіць гэтага. Таму што ён не можа аддаць у рабства кудысьці на Чад або ў Танжэр, у другі канец вялікай нявольніцкай дарогі, гэты камячок жывой плоці, які вярнуў яму радзіму. Радзіму, якую таксама нельга аддаць. І нават калі заб'юць, ён памрэ з думкаю пра дзяўчынку і з думкаю пра яе, багацейшы, чым за ўсе сямнаццаць пустых год. «Сіняя-сіняя...».

Глыбокім трагедыйна-філасофскім зместам, роздумам пра сваю радзіму і яе лёс у кантэксце грамадскіх і сацыяльных катаклізмаў, што адбываліся на зямлі, напоўнены Петраковы думкі : «Усё адно людзі гінуць і народы гінуць, і працэс гэты няўхільны, а на зямлі не застаецца нічога, акрамя магіл». Жалюгоднымі здаецца Петраку высілкі людзей нешта змяніць у жыцці. Усё ж, як выклік сфінксу, у героі абуджаецца прага жыць і захаваць для будучыні кволую дзяўчынку, што вярнула яму радзіму. Радзіму нельга страціць. Да яе трэба вярнуцца, каб прадоўжыць пачатую справу. Адыходзіць у далячынь, на сцэне застаецца толькі яго лялечнае ўвасабленне, падсвечанае і кінутае на экран быццам высахлая мумія... Цытата беларускай народнай калыханкі «Спі, сыночак міленькі» — сімвал Мадонны-Багародзіцы. Фальклорнае мужчынскае выкананне «Крыжа цяжкога» асацыюецца з узыходжаннем на Галгофу.

Гэта спектакль-папярэджанне, гэта спектакль-заклік аб вяртанні Радзімы, пра Радзіму, якую нельга аддаць. «І трэба ратаваць казку, пакуль Яна казка, а не пустыня. Трэба біцца за яе сам з сабою, а нават з самім д'яблам. І памерці сам з сабою на зялёных лугах, прыгажэйшых за ўсё на зямлі. Вяртанне. Толькі вяртанне!» — «Любыя складаныя высновы і пошукі, важныя рашэнні па выбары жыццёвага шляху — унутры аднаго чалавека, яны, як правіла, вырашаюцца сам-насам з самім сабой. Пра гэта і наш спектакль», — сказаў рэжысёр Ігар Казакоў.

Знакамітае апавяданне сапраўды перакладзена на іншую мову — з літаратурнай на тэатральную, і ў сэнсавае поле сучаснасці. Ігар Казакоў пазначыў жанр свайго монаспектакля як «галюцынацыя ў адной дзеі без антракту». Нацыянальная беларуская тэма пашыраецца да агульначалавечай. Лялькі — віленскія гімназісты, пакараныя паўстанцы — бястварыя, затаптаныя таталітарызмамі і войнамі. А сімвал Беларусі — белы бусел, што кружыць над садамі, палямі і лясамі — адсвечваецца як самалёт, які цікуе над айчынамі не з мірнай мэтай.

Спектакль быў пастаўлены на беларускай мове, над сцэнай пускаліся субтытры (дарэчы, вельмі кепскі пераклад на польскую мову). Але без іх, дзякуючы эмацыйна і жывапісна пабудаваным сцэнам, аказаў ён вялікае ўражанне на заваражаных і задуманых гледачах.

У цэлым кожны год тэатр паказвае больш за 200 спектакляў. За адзін тэатральны сезон Магілёўскі тэатр лялек наведваюць больш за 30 тысяч гледачоў. У дзеючым рэпертуары тэатра больш за 20 спектакляў для розных узроставых катэгорый. Аднак асновай рэпертуару з'яўляюцца, дзіцячыя спектаклі. Сярод найбольш папулярных на сёння пастановак можна назваць «Чароўная зброя Кендзі» (М. Супонін) — паэтычная прытча па матывах японскіх легенд і казак; «Марозка» (В. Гаўф) — зімовая казка для самых маленькіх і не толькі; «Карлік Нос» (Я. Вількоўскі) — казка з трылогіі В. Гаўфа, «Александрыйскі шэйх», «Медзведзяня Рым-Цім-Цы» (Р. Кіплінг) — музычная казка-гульня, «Дапытлівы слонік» і «Зніклая зіма, або вяртанне снежнай каралевы» В. Корнева.

**Міра ЛУКША**



■ Ільля Магін і Марыя Кулакоўская

# Ільля ПІЦЕРСКІ

— А скуль гэты кучаравы да цябе прыехаў? — пытае крынская прадаўшчыца яек. Я ўдзячная ён не толькі за экалагічныя яйкі, якія прадае мне па моцна заніжанай цане, але перш за ўсё за тое, што як адна з нешматлікіх гаворыць са мною па-нашаму.

— Ён хоча вучыцца простай мове, — тлумачу, — ад вас. Слоўнікі яго не цікавяць.

Пачуўшы такія дзівы, жанчына ажно вочы вытрашчыла.

— Не можа быць, — адказвае. — Яна ж такая брыдкая, усе з яе смяюцца, у цэлай Польшчы з нас смяюцца праз гэтую мову.

* * *

Ільля Магін робіць уражанне загубленага. Асабліва, калі, зняўшы дзіравыя боты, аказваецца ў дзвюх розных па колеры шкарпэтках: сіняй на левай, чырвонай на правай альбо зялёнай на правай, а жоўтай на левай назе.

Мабыць, усё тут прынцыпова. Дзве розныя шкарпэткі — ужо дваццаціпяцігадовая звычка. Разнароднасць у тым выпадку сімвалізуе рай у адрозненні ад манатоннай, гамагеннай чорна-белай аднолькавасці. Нарадзіўся Ільля ў чыста расейскім і чыста савецкім Пецярбургу з праваслаўнай мамы і бацькі яўрэя. Мама і папа згодна елі свініну і так сама згодна не наведвалі ні царкву, ні бажніцу. Ільюша не чуў іншай мовы апрача расейскай. З малым выключэннем. Калі было яму чатыры годзікі, бабуля сказала два англійскія словы: *bear* (мядзведзь) і *elephant* (слон). Мабыць тады ўсё пачалося. У тым часе старэйшы брат прынёс дахаты магнітафон з касетамі «Бітлзаў», зайграў і бацькоўскі радыёпрыёмнік. Моцна хацелася яму ведаць, пра што спяваюць па радыё.

Мовы ствараюць яго свет. Жыве імі і дзеля іх. Вучыўся пятнаццаці мовам, раздумвае над шаснаццатай. Прытым ніколі не гаворыць дарэмна, згодна нямецкай прыказцы, што „гаварэнне — серабро, а маўчанне — золата". Не расстаецца з маленькім нататнікам, у якім чырвоным атрамантам запісвае розныя моўныя цікавінкі, а ў ліку апошніх: як па-простаму назваць цяпліцу, ці нешта, чым сікае мужчына.

— Ёсць такая краіна, у якой магу мяняць мовы, — кажа Ільля. — Гэта Літва. Менавіта там я зразумеў, што ёсць рай на зямлі.

Там наступіла яго другое нараджэнне. Пецярбургскі свет, у якім размаўляў ён толькі на адзінай рускай мове, знік быццам кепская мроя, прытым назаўсёды.

* * *

Калі ідзе пра дзіравыя боты — гэта вынік частых этнаграфічных вандровак. За клічку „турыст" гатовы абразіцца. Уся яго маёмасць змяшчаецца ў невялікай торбе — у асноўным гэта добры дыктафон і камізэлька з кішэнямі. У кішэнях трымае грошы: польскія, рускія, літоўскія. Амаль не звяртае на іх увагі. Навошта яму гэтыя грошы. Есць ён столькі, што кот наплача, а пачастункі ад незнаёмых успрымае як абавязковую частку навуковых даследаванняў. На тытунь для каханай люлькі заўсёды хопіць. І, як на злосць, гэтыя грошы літаральна сцелюцца яму пад ногі, а ён усё роўна іх не падымае, пакідае бяднейшым, больш патрабуючым.

Ільля — як сапраўднаму Ілью прыходзіцца, не баіцца дажджу, здзічэлых сабак, ці такіх жа людзей, ні хвароб, ні самой смерці.

— *Добро б ты тут меўса*, — сказала яму спадарыня Мішчук, суседка грыбаўскага Ілы. Яе бацька стаўляў вершалінскія хаты. Ведае, што гаворыць, да апошніх дзён апекавалася сястрычаствам славутага прарока.

У вершалінскі лес завялі яго гукі натуральнай, беларускай мовы. З усімі напатканымі гаварыў выключна па-беларуску. Нехта, бываючы ў свеце, дашукаўся ў яго беларушчыне ўкраінскага вымаўлення. Аказваецца, гэта старабеларускі ўплыў кніг Скарыны. Вучыўся таксама па выдадзенай у Вільні граматыцы Тарашкевіча і па канадскіх выданнях сямідзясятых гадоў лацінкай. На акадэмічныя, савецкія, друкаваныя ў Мінску граматыкі вялікай увагі не звяртаў, паколькі здаваліся яму надта русіфікаванымі. У Вільні ўбачыў беларушчыну з балтыйскай перспектывы, далёкай ад нечага паміж польскай і рускай мовамі. У рэдактарскай працы перакладаў з літоўскай на беларускую, падкрэсліваў менавіта моцны літоўскі фундамент беларушчыны. У ноўтбуку чытаю фрагмент „Тутэйшых", частку „Віленскага покера" літоўскага пісьменніка Рычарда Гаваляса. Рэдагаванне гэтай кніжкі Ільля завяршыў вясной. Прыкмячаю сапраўды не літаратурную беларушчыну, вельмі падобную на дзевятнаццацівечныя запісы Міхала Федароўскага.

У час вандровак па падкрынскай пушчы памыляў „свята" са „святлом". Вядома, толькі дурні не памыляюцца. Свята ўсё роўна павінна быць светлае. Аказваецца, не заўсёды.

— Хто сказаў, што я павінен быць шчаслівы? — маўляў прэтэнцыёзна.

* * *

Як звычайны пецярбургскі паланафіл, трымаўся вобразу Польшчы Чэслава Мілаша, Норвіда, Галчынскага. Але іх ужо няма, няма іхняй Польшчы. Затое на віленскіх вуліцах сустрэў цэлае мора выключна польскіх пілігрымаў з велізарнымі бел-чырвонымі сцягамі, велізарнымі крыжамі і такімі ж фігурамі Божай Маці на плячах. Доўга рашаўся на гэтую паездку.

Тут на „дзень добры" замахаў яму левай рукой папа „Totus Tuus" (цэлы твой). Ажно вочы праціраў ад здзіўлення. Пасля той жа папа ўсміхаўся да яго з каляровых партрэцікаў, наклееных на чырванюсенькім сметніку ў супрасльскай „Бядронцы".

Першая субяседніца першай даследчыцкай вандроўкі ў межах Польшчы катэгарычна адмовілася гаварыць па-нашаму.

— Тут Польшча і буду гаварыць выключна па-польску, — запратэставала. — Навошта каму гэтая брыдкая мова. Давай лепш па-руску пагаворым.

Рускай навучылася яна на службе ў Нью-Йорку ад яўрэйскай работадаўцы. Калі дабрадзейка памерла, прыйшлося беднай старой вяртацца на зненавіднае старое смецце.

А Ільля ўсё-такі не перайшоў ні на расейскую, ні на англійскую мовы.

— Я ўжо слоў пазабывала, — усвядоміла сабе раптам субяседніца, амаль дзевяностагадовая Марыя Кулакоўская родам з Крушынян. — Я тут не маю з кім па-простаму размаўляць.

— Гэта такая мяшанка польская з рускім, — умешваецца ў размову старэйшая дачка спадарыні Марыі. Малодшая, вяртаючыся з гарадоцкай „Сяброўскай бяседы" запытала ў мяне, што гэта значыць быць беларусам. Менавіта ў той момант яе каштоўны аўтамабіль папаў у аварыю, на шчасце не надта сур'ёзную. Пытанне засталося адкрытым.

* * *

З Крынак Ільля вярнуўся ў каханую Вільню. Мог забрацца з экуменічнымі пілігрымамі і іх польскімі сцягамі. Яны так весела махалі да яго, усміхаліся. Можа пашкадаваў сваіх і так моцна прадзіраўленых ботаў?

* * *

— Чаго ў цябе шукаў той кучаравы? — пытаецца ў мяне пяцідзесяцігадовы каталік-лясун.

— Беларускім захапіўся, — адказваю.

— Тры „Нівы" ў хаце трымаю, — прызнаецца, гледзячы ў зямлю.

— І ўмееш чытаць? — цікавіцца стаячая побач жанчына

— Так, нават па-хахлацку, — адпавядае, нягледзячы ёй у вочы.

* * *

А так увогуле вельмі шкада, што крынскі Фонд „Віла Сакратэс" не запрасіў Ілью да ўдзелу ў сёлетніх „Трыялогах". Якраз і пра Літву будуць гаварыць. Ён жа столькі цікавага мог бы расказаць.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Без інструментаў дома не магу жыць

**Аляксандр ВАЛКАВЫЦКІ**, 1957 года нараджэння, адстаўны паліцыянт з Орлі, гэта чалавек з сямейнымі музычнымі традыцыямі. У канцы 1970-х гадоў нейкі час вёў у Орлі майстэрню па рамонце і настройцы музычных інструментаў.

Спадар Аляксандр пасля прафтэхвучылішча трапіў прызыўнікам на Памор'е. Але ў войску цягнула яго да музыкі; успамінае:

— Напісаў бадай сем прашэнняў, каб перавялі мяне ў вайсковы аркестр пры Кашубскай брыгадзе Войск аховы пагранічча, але адказаў не было. З маладых гадоў, можа з шостага класа пачатковай школы, іграў я на забавах, вяселлях. Асабліва любіў гітару і клавішныя інструменты.

Калі ў канцы 1970-х гадоў у арлянскім Гмінным асяродку культуры стаў працаваць музычным інструктарам Юзаф Янушка, то неўзабаве заснавалі дома майстэрню „Naprawa i strojenie instrumentów



muzycznych". Калісь мой дзед Панцеляймон Савіцкі гэтым займаўся („Ніва" ад 27.06.1999 г., „Музыкай сплеценыя жыцці").

Спачатку працавалі мы без пячаткі, толькі на пашпарт. Былі праблемы з рэгістрацыяй майстэрні. Тадышні начальнік гміны Мікалай Зіневіч гаварыў, што ў мяне няма адпаведнай адукацыі. Загадчык цэха ў Бельску спадар Жукоўскі сказаў, што калі начальнік дасць згоду, а я нічога не сапсаваў, то ўсё ў парадку. Ну і на канец даў згоду, але толькі на тэрыторыю ваяводства.

Спадар Янушка быў настройшчыкам інструментаў, а за механічныя справы не браўся. Настройвалі інструменты фірмам, установам культуры. Ездзілі на аўтобусе, напрыклад у Чартаева, Сямятычы, Тыкоцін, Саколку і што ўдавалася наладзіць на месцы, то там ладзілі, або прывозілі цэлы інструмент і тут разбіралі. Здаралася і так, што над механічным рамонтам трэба было пасядзець і тыдзень часу — клавіятура, пяціплечныя рычагі. Трэба было разабраць усю механіку, расклейваць малаточкі, пасля склейваць. Бывала, што молі паз'ядаюць стужкі, а і нешта мышы пагрызуць. Ладзілі фартэпіяны, піяніна, акардэоны; акардэонамі займаўся я. І з таго занятку нейкі грош заўсёды быў.

Чаму перасталі? Галоўным чынам з-за аплат. Спярша казначэйства, а пасля сацыяльнае страхаванне нас „выканчылі". У 1981 годзе прызвалі мяне ў запас, дзейнасці ў той час не вёў, абклалі мяне дадатковым падаткам.

У міжчасе здабыў я сярэднюю агульную адукацыю, а пасля закончыў культурна-асветныя курсы. Працаваў у Гмінным асяродку культуры, выконваючы абавязкі дырэктара. Ажаніўся, заснаваў сям'ю. І кажу начальніку гміны, што прыдалася б падбаўка; ён адмовіў. То я заявіў, што пашукаю іншай працы. Ну і пасля медыцынскіх абследаванняў стаў на службу ў міліцыі, пасля паліцыі. Спярша быў участковым, пасля выконваючым абавязкі каменданта, затым камендантам у Вышках, пасля ў Боцьках, а на канец два ці тры гады ў крымінальным аддзяленні ў Бельску-Падляшскім.

Ці ўдалося перадаць сямейную традыцыю сынам? На жаль, не. Пайшлі па маці. Няма ў іх ахвоты; навошта нам гэта, кажуць. А я без інструментаў дома жыць не магу. Думаў, што калі дома будзе піяніна, то і сын набярэ ахвоты, а я яму ўсё пакажу — танальнасць, акорды... Цяпер у модзе толькі камп'ютары і якаясь дурнаватая музыка — завяршае мой суразмоўца.

Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

PS. У мінулым я з Аляксандрам ды са спадаром Янушкам шматразова ігралі на забавах і вяселлях. На пенсіі Аляксандр з замілаваннем займаецца таксама сталярствам і слесарствам; самастойна выканаў сабе некаторыя машыны. Астаецца чалавекам пагодлівым, незалежна ад розных жыццёвых абставін.

М. М.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі



# Як верасень, то і школа!

Канікулы завяршыліся, а пачатак навучальнага года ўзбуджае шмат эмоцый! Некаторыя цешацца, іншыя лічаць, што пачынаецца самы стрэсавы перыяд. Сёння калідоры і залы Пачатковай школы № 4 у Беластоку перапоўніліся гоманам і размовамі дзяцей поўных яшчэ канікулярных уражанняў і эмоцый.

4 верасня гэта дзень вяртання: да сяброў, партаў, супольных заняткаў, але перш за ўсё да АБАВЯЗКАЎ! Таму пачатак навучальнага года заўсёды нясе з сабою крышачку смутку. Старэйшыя ведаюць кожны школьны куточак, малодшыя яшчэ няўпэўнена хадзілі па калідорах. Крыху боязі, але таксама надзеі, амбітных планаў.

— Хачу яшчэ лепш вучыцца і паехаць на Сустрэчы «Зоркі», — сказаў Кандрат Косцін.

— Я маю такую мэту, каб стаць самым лепшым вучнем у школе, —падзяліўся сваімі планамі Мікола Здрайкоўскі. Хаця школьны год гэта для яго пад'ём а палавіне пятай, запэўнівае, што энергіі хопіць яму да чэрвеня!

Спадзяемся, што так, як для Кандрата і Міколы, школа будзе для вас перш за ўсё месцам інтэлектуальнай прыгоды, месцам набывання ведаў, але перш за ўсё месцам прыязным і бяспечным!

Поспехаў! **(УШ)**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Птушка і конь

У індускага цара была птушка, якая замест яек несла жэмчугі, смарагды, дыяменты.

Пачуў гэта грэчаскі цар і захацеў для сябе птушку. Ён выслаў паслоў да індускага цара, каб яны зладзілі здзелку. Індускі цар кажа:

— Я абмяняю вам нясушку, але ўзамен хачу рысака хутчэйшага за птушку.

Хоць жаданні здаліся складанымі, два бакі выканалі абяцанае. Аднак птушка, якая апынулася на двары ў грэчаскага цара, пачала несці звычайныя яйкі. Конь таксама не пацешыў індускага цара, стаў кульгаць і зусім перастаў скакаць і бегаць.

Звярнулі свае падаркі цары, а птушка і конь, калі апынуліся на сваім месцы, сталі такімі, якімі былі яны раней.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Фота Ганны Кандрацюк



Злева: Ксеня Клімюк і Юлія Баравік

# УВАГА КОНКУРС! № 37-17

**Хлеб паспеў, яна напомніць:**
**— Жаць пара! Жаць пара!**
**Ноч прыйшла, яна ўспомніць:**
**— Спаць пара! Спаць пара!**
**П........**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 17 верасня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 34-17: мядзведзіца. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Вікторыя Гаць і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

**Вікторыя Гаць**, бельская «тройка»

## Лета

Як хутка лета прамінае.
Цёплыя дні і яшчэ кветкі розныя
цвітуць. Сонейка моцна яшчэ
прыпякае і зноў у школу
вяртацца нам час.
Лета мінае, а я так хацела б,
стрымаць, аставіць яго,
сонца цёпла яшчэ свеціць
і птушкі так як дзеці гуляюць
на дворы.
Заўтра ў школу званок нас пакліча
і будзем зноў рашаць задачы свае.

27 жніўня 2017

*(расквецім гісторыю Беларусі)*

# Тадэвуш Касцюшка і Паўстанне 1794 года

Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі. Асоба Касцюшкі — сімвал свабоды, талерантнасці і роўнасці паміж людзьмі. Ён нацыянальны герой Польшчы, Беларусі, ЗША, Францыі, Літвы. Тадэвуш Касцюка — кіраўнік паўстання 1794 года супраць Расійскай імперыі.

Тадэвуш Касцюшка як першы выказаўся за вызваленне сялян ад прыгону, таму сярод іх ён карыстаўся вялікім мірам. У яго гонар спявалі песні і называлі яго імем сыноў.

У прыватным жыцці Тадэвуш Касцюшка быў вялікім рамантыкам. Усё жыццё ён застаўся верным Людвіцы Любамірскай, з дому Сасноўская. Іх палымянае пачуццё не знайшло зразумення сярод магнацкага роду, з якога выводзілася Людвіка. Бацька Людвікі бачыў у Касцюшцы адно ідэаліста і беднага шляхціца. Аднак павага і разуменне для асобы Касцюшкі вярнуліся пасля яго смерці ў 1817 годзе. Калі Рэч Паспалітая апынулася пад панаваннем чужых дзяржаў, эліты зняволенага краю належным чынам ацанілі ролю Тадэвуша Касцюшкі. Ушанаванне адбывалася на розных узроўнях, яму ставілі незвычайныя помнікі. Напрыклад, у памяць Тадэвуша Касцюшкі быў збудаваны прыгожы палац у Косаве. Па сённяшні дзень сустракаюцца там закаханыя парачкі, а маладажоны пасля вянчання ўскладаюць кветкі.

**(з-ка)**




**Сяргей Грахоўскі**

## Верасень

По ружовым верасе  
Ціха ходзіць верасень.  
Апусцела поле,  
Толькі людна ў школе,  
Зазвінеў ізноў званок —  
Пачынаецца ўрок.

## Новыя прапановы на 2017/2018 школьны год

Як кожны год, з вялікай цікавасцю і спадзяваннямі пачынаем візіты ў вашых школах.

4 верасня г.г. мы завіталі ў беластоцкую «чацвёрку», дзе шмат навучэнцаў беларускай мовы. У гэтым годзе выпадае слаўны юбілей — 20 гадоў навучання беларускай мовы ў Беластоку. Юбілей адзначаць 17 верасня ў кавярні *Zmiana Klimatu*. На старонках «Зоркі» мы аднатавалі многія моманты гэтага працэсу, пісалі пра поспехі вучняў і настаўніцы Аліны Ваўранюк, друкавалі допісы дзяцей і сустракалі іх у нашай рэдакцыі. Вядома, мы таксама завітаем на юбілей і апішам усе цікавыя моманты.

З падобнай увагай выходзім да ўсіх школ, дзе ідзе навучанне беларускай мовы. Тут кантакт аблягчаюць дзве справы — калі ў школе нашы карэспандэнты і калі навучэнцы, чытачы «Нівы». Гэта дапамагае зразумець наш беларускі свет, які побач.

Для чытачоў, як кожны год, мы падрыхтавалі шмат прапаноў. Ужо з верасня прадставім прэзентацыі школ, напішам пра вашы справы, новыя праекты, змены і спадзяванні. Запішам ураджанні і адчуванні вучняў сёмых класаў, якія пайшлі па новай праграме рэформы. Усіх, хто любіць літаратуру, піша вершы або апавяданні, заахвочваем прыняць удзел у конкурсе «Дэбют». Самыя цікавыя творы надрукуем на старонках «Зоркі». Апрача гэтага дзяўчаты і хлопцы, якія будуць дасылаць нам допісы са сваіх школ, атрымаюць запрашэнне на журналісцкія майстар-класы — Сустрэчы «Зоркі».

Як кожны год, будзем праводзіць многія конкурсы і адукацыйныя гульні, у якіх будзе можна выйграць беларускія кніжкі і рэквізіты з радзімай сімволікай. Ідзе падрыхтоўка паэтычнага тома «Спеў дрэў» аўтарства Міры Лукшы. Кнігу прыаздобяць малюнкі Мірaслава Здрайкоўскага. Гэтая кніжка ўжо неўзабаве выйдзе з друку. Мы прыдумалі для вас сюрпрыз: у школах, дзе будзе найбольш падпісчыкаў «Зоркі», наладзім прэзентацыі з аўтарамі. Спадзяемся таксама, што цягам бягучага школьнага года на нашы старонкі зноў вернецца колер і будзе больш калярова.

На канец хочам пахваліць сяброў, якія, не зважаючы на час канікулаў, кожны тыдзень дасылалі нам адказы на крыжаванкі і загадкі, пісалі пра свае прыгоды і новых сяброў. Асаблівая падзяка для Магдалены Якубюк за цудоўныя паштоўкі з выявамі падляшскіх гарадоў, звяроў і старых, прыгожых машын. Вашу актыўнасць хочам узнагародзіць. Для вас мы падрыхтавалі дадатковыя ўзнагароды — гарадзенскія кубачкі з беларускай сімволікай.

**(З-ка)**

Іван Бурсаў

(З рускай мовы пераклаў Васіль Зуёнак)

## Школьны ранец

Што ў цябе, скажы, Міколка:  
Школьны ранец ці кладоўка?  
Бо чаго не знойдзеш тут:  
Шайба, корак, нітак жмут,  
Пістолет драўляны,  
Жук чацвертаваны,  
Плаўлены сырок для кошкі,  
Булкі высахшыя крошкі,  
Два часопісы падзёртых,  
Пяць цукерачных абгортак,  
Сшыткі,  
Дзённік ёсць,  
Асадка...  
Аднаго няма —  
Парадку!

## Польска-беларуская крыжаванка № 37-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33-17:**

Пах, фланг, ружа, мах, кола, хата, горка, баран, вы, пагранічча. Пірог, круг, крок, улада, лужа, харч, гумар, атава, каханы.

Узнагароды, дапаможнікі па беларускай мове, выйгралі **Дам'ян Карнілюк**, **Магда Якубюк**, **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Żyłka | | Oczy | | Taxi | |
| Dom | Woda | Brzuch | | | | | | |
| Grążel złocisty | | Rybka | | Ty | Czas | | | |
| | | | | | | | | Iks |
| Więc / Chód | | | | Ren | | Pac | | |
| | | | | | Pik / Chi! | | | |
| | Łapówka / Drobiazgi | | Ego | | | | | |
| | | | | | | | | |

# Прывіды Адама МІЦКЕВІЧА



Адзін мой гродзенскі сябра жыве ў шматгадовым перакананні, што прычынай многіх ягоных жыццёвых няшчасцяў з'яўляюцца падзеі, якія заўсёды адбываліся пад васямнаццатым чыслом ці нумарам. А паколькі ён заўсёды меў схільнасць да кабалістычна-нумералагічных прадказанняў, то кожнае васямнаццатае чысло было для яго сапраўднай траўмай. Паводле жыдоўскага, біблейскага, кабалістычнага кода ўмеласць адчытвання пераліку (гематрыі) лічбаў з'яўляецца адным з ключоў, якія адкрываюць парадак свету. Паводле нумеролагаў лічба 18 абазначае няволю і д'ябальскі сімвал 6 + 6 + 6. Паводле кнігі суддзяў Ізраіль быў васямнаццаць гадоў у няволі, але таксама злы дух столькі ж сама часу праследаваў жанчыну. Ад гэтай бяды выратаваў яе сам збавіцель Ісус Хрыстос. Гэты дзень сябра найчасцей праводзіць дома, не плануе аніякіх падарожжаў ці сустрэч. І вакол сябе, для сяброў і знаёмых рассейвае дэманічнасць гэтай лічбы. Стараецца нашы думкі і душы заінфекаваць пэўным сіндромам ягонай містычнай няўпэўненасці. А сам тады проста стараецца перачакаць тыя дваццаць чатыры гадзіны. Як дадумваюся, выкінуў бы іх ахвотна з кожнага каляндарнага азначэння. Не разважае над тым, што, кіруючыся такой логікай, сённяшні, круглусутачны каляндар трэба было б таксама прызнаць чартоўскай выдумкай, а мы з'яўляемся заложнікамі выключна д'ябальскай арыфметыкі, якая ёсць аж чатырохразовай паўтаральнасцю нелюбімай шасцёркі. Калі б была хаця б адна западозранасць у такім разуменні календара, то напэўна свяцейшыя айцы Царквы і Касцёла даўным-даўно ўжо даказалі б, што суткі маюць зусім іншую часовую прамежнасць. Узгадаў я тут майго сябру невыпадкова.

### Кабала Пана Адама і таемная скрынка Пана Мірана

А ўсё дзякуючы менавіта прайшоўшаму 1-2 верасня ў Крынках, ужо пад нумарам... XVIII Трыялогу, арганізаванага нястомным Лявонам Тарасэвічам і кіраваным ім фондам «Віла Сакратэс». Фонд знаходзіцца пад адрасам дома святой памяці Сакрата Яновіча, што па вуліцы Сакольскай, 9. Дарэчы, для экстрэмалаў кабалістаў, прашу не смяяцца, дзявятка з'яўляецца толькі адвернутай шасцёркай. А затым паясняю, чаму распачаў я сваё пісанне з нумералагічных тлумачэнняў. Справа непасрэдна звязана не з абы-кім, а з самім Адамам Міцкевічам, дух геніяльнасці якога быў выкліканы арганізатарамі трыялогу як прычына для дыскусіі пра беларускае ў шматтэматычных кантэкстах. Трэба памятаць, што апрача прызнання яго польскім класікам літаратуры, быў ён не абы-якім знатаком і паклоннікам кабалістычна-містычных практык у еўрапейскай прасторы. Гэтыя практыкі мелі спалучаць юдэа-хрысціянства, прыпраўленае славянскім паганствам. Толькі такое магло нарадзіцца ў галаве на Навагрудскай зямлі, дзе штодзённае прабыванне ў мінімум чатырох космасах (каталіцкім, праваслаўным, старазаконным і мусульманскім), вызваляла такія палёты і патрэбу выбудоўвання своеасаблівага, новага рэлігійнага сінкрэтызму, узгадаванага на мясцовым духоўным чарназёме, якім хацелася абдзяліць акружаючы бліжэйшы і далейшы свет. А ўсё пачалося дзякуючы жыдоўскай бабулі, практыкуючай кабалісткі-франкісткі (секты, згуртаванай вакол Якуба Франка, якога лічылі сваім маэстра і Месіяй). Адкінулі яны Талмуд і перайшлі ў хрысціянства. Схільнасць да містычных залежнасцей неад'емная частка душы і жыцця самога Адама Міцкевіча. Ён няраз менавіта займаўся лічбамі, прытым часта спасылаючыся на свой дзень і месяц нараджэння. Нагадайма, нарадзіўся ён 24 XII. Як не круці, у пераліку дае гэта шэсць шасцёрак. Любімы квадрат паэта гэта магічны памер шэсць на шэсць, у які можна было запісаць трыццаць шэсць літар тадышняга польскага алфавіта. Зараз маем у ім трыццаць пяць, бо вылецела з яго часоў літара е з птушкай над ёй.



Фота Хрыстафора Ангельчыка

Найбольш таямнічая міцкевічоўская лічба знаходзіцца ў славутым сказе, змешчаным у III часцы неўміручай паэмы «Дзяды» — «... а імя яго будзе сорак чатыры». Не тут месца і час на аналіз адвечнага школьна-польскага пытання: што аўтар меў на думцы? Але паводле кабалістаў лічба 44 з'яўляецца майстэрскай. Вераць яны, што людзям, якім сума лічбаў з даты нараджэння выпадзе менавіта такая, то прысуджаныя яны на поспех і службу чалавецтву. Таксама ў адпаведнасці з натуральным парадкам свету і прыроднага вызначэння маем чатыры поры года, чатыры старонкі свету і чатырох біблейскіх ездакоў апакаліпсіса, якія гэтае зямное прыгожае могуць абярнуць у пыл і прах у любы момант.

Свет прыроды і свет беларускага абраду восеньскіх дзядоў гэта не толькі цікаўнасць Міцкевіча да мясцовых вераванняў. Без усёй беларускай касмалагічнай духоўнасці не было б Адама Міцкевіча. Увабраў ён у сябе адтуль самае лепшае, аднак выразна не акрэсліў, дзякуючы каму ўзляцеў на недасяжны простым смяротным літаратурны Парнас.

Менавіта і адтуль у яго імкненне да адкрывання чалавечай першабытнасці, якая запісваецца мовай слова. Адкрыванне яе гэта ачышчэнне сябе ад папялішча масак і накінутай стагоддзямі абмежаванай, першапачатковай містычнай аголенасці. Пранікненне гэтым адкрываннем было заўсёды жыццёвым захапленнем знакамітага і таямнічага польскага пісьменніка Мірана Бялашэўскага. Вялікі паклоннік маналога Густава з IV часткі міцкевічоўскіх «Дзядоў» сам заснаваў тэатр, у якім чытаў фрагменты гэтага твора. Таксама сотні разоў начытваў свае інтэрпрэтацыі на магнітафонную плёнку. На аснове гэтай гісторыі мы змаглі ў пятніцу вечарам у каўказскай сінагозе ў Крынках пабачыць неверагодна цікавы тэатральны спектакль, падрыхтаваны рэжысёрамі Яцкам Копінскім і Паўлам Пасінім. Гэты другі ўжо раней самастойна і з беларускімі акцёрамі дакрануўся да геніяльнага твора Міцкевіча. Гэтым разам спалучэнне мовы слова і цела ў выкананні тэатральнай групы зачароўвала, але і адначасна адчароўвала дэфармаваны свет пошукаў нашай бачнай і нябачнай ідэнтычнасці. Смяротнае і несмяротнае пераплятаецца паміж чалавечнасцю і прывіднасцю. Каб адшукацца і хаця крыху ўзаемазразумецца, увесь час мусім праабражацца ў бок свядомай і падсвядомай першапачатковасці. Абрадавыя дзяды гэта адзін з тых момантаў чалавечага зямнога існавання, калі наш унутраны і касмічны свет яднаюцца і даюць магчымасць адчування глыбейшага самапазнання. Яно аднак нерэальнае, калі мы не з'яднаемся ў гэтым з продкамі ці блізкімі. Спалучаныя ў непасрэднай духоўна-цялеснай блізкасці, можам адважыцца заглянуць у бок чалавечага стварэння. І Бог стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве. Але адтуль таксама магчымы ўжо і невялікі крок у другі бок — шызафрэнічнага шаленства з чутнымі ў галаве боскімі і дэманічнымі галасамі.

Блізкасць акцёраў, іграючых у такой невялікай прасторы сінагогі, а не на сцэне, з'ядноўвала з таямнічасцю адкрывання. Прытым іхняя цялесная пластычнасць уражвала магчымасцямі чалавечай фізічнасці. Простае сцэнаграфічнае афармленне са старых вокнаў, у якіх адны шыбы былі бачны, другія — нябачны. Ідэнтычна як са светам — убачаным і нябачаным. Усё можна пераступіць, але як вярнуцца, будучы прытым у поўнай свядомасці зробленых крокаў. Спектакль «Скрынка. Замова заклёнаў Мірана Бялашэўскага» дазволіў мне ў пятніцу вечарам нырнуць у містычна-кабалістычны свет Адама Міцкевіча, які, здаецца, у многіх справах браў верх над рацыянальнасцю ягоных поглядаў і дзеянняў. То таксама і адна з прычын закалоту над адчытваннем знакавых твораў генія з Навагрудчыны.

### Кракаў — Крынкі — Крэва — Вільня

Крынкі Сакрата Яновіча ў мінулым, яшчэ нават у іх даваенным выглядзе, нягледзячы на адлегласць, цалкам падобныя на Навагрудскую зямлю. Нават па сваім узгоркаватым ландшафце яны быццам сястрыцы, толькі раздзеленыя раўніннымі прасторамі Лідчыны. Тут і там той жа самы адвечны культурны кангламерат даваў багацце інспірацый для літаратурных і мастацкіх памкненняў і выпрабаванняў. І мова крынкаўская са сваімі элементамі сакатання для навагрудскай беларускай стыхійнасці амаль блізнячая. Тэрыторыю і край Адам Міцкевіч у XIX стагоддзі прыпісаў да Літвы і польскасці. Наш сярэбраны яздок Сакрат Яновіч у XX стагоддзі вяртаў яе, нягледзячы ўжо на мяжу, у дзяржаўную і духоўную прастору беларускасці. Прытым жа часта ў сваіх гістарыязафічных доказах падпіраўся творчасцю Адама Міцкевіча. Для польскага прарока прызнаннем у ягонай тутэйшай адметнасці, ці як зараз модна гаварыць краёвасці, была Вастрабрамская Божая Маці. Для Сакрата Яновіча паўтара стагоддзя пазней вызначэннем супольнага лёсу і прасторы стала Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг, якія заўсёды красаваліся на лацкане ягоных пінжакоў. Звычайная эвалюцыя сялянскіх грамадскасцей — ад этнаграфічнай тутэйшасці да палітычнага народу. «Nie przenoście nam stolicy do Krakowa», — спявае знакаміты польскі пясняр Гжэгаж Турнаў. Не вяртайце нас у міцкевічоўскі час — гэта мая просьба да ўсялякіх «добразычліўцаў» беларускай справы. Размыванне нашай агульнанацыянальнай беларускасці ў зманлівасць толькі лакальнай, нерамантычнай этнаграфічнасці — яшчэ адзін самагубны скачок, якога многія чакаюць. Таму апрача гаварыць толькі пра Сакрата, варта дзеля існавання нас як беларусаў перачытваць яго і запомніць некаторыя высновы. Каралеўскі тракт, пракладзены крэўскай уніяй 1385 года, які пралягаў праз Крынкі, у рэшце рэшт зарос і страціў якую-колечы прываблівасць. Прывёў нас, беларусаў, стагоддзямі, паступова толькі да існавання ў вымярэнні выключна сялянскага этнасу, які ў сваёй сацыяльна-грамадскай функцыі меў абслугоўваць шляхецка-магнацкія землеўладанні. Такім чынам неўзабаве вараженча і бунт чакалі сваёй гістарычнай чарговасці. У панскіх паўстаннях дзевятнаццатага стагоддзя — 1831 і 1863 гадоў — сялянскія галовы і душы як найдалей трымаліся ад не сваёй справы. Урублеўскі і Каліноўскі са сваёй «Мужыцкай праўдай», выдадзенай беларускай лацінкай, не скалыхнулі сэрцаў беларускіх праваслаўных сялян. Тыя з сялян, якія тады чыталі, ведалі ўжо перш за ўсё толькі рускія буквы, вывучаныя ў царкоўна-прыхадскіх школах. Польскі алфавіт асацыяваўся ім выключна з панскай, значыць, польскай справай. Падпольная «Мужыцкая праўда» таму большую сілу ўздзеяння мела сярод збяднелай, беларускай, каталіцкай шляхты і сялянства. Там веданне лацінскага алфавіту

працяг ☞ 9

# ў Крынках Сакрата ЯНОВІЧА

вынікала з чытання польскіх кніжачак да касцельных набажэнстваў. Чытанне лацінскімі літарамі па-свойму стала выклікам у будучыні для многіх ксяндзоў-беларусаў з Сакольшчыны, якія адчулі сваю прыналежнасць да роднага сусвету.

На пачатку XX стагоддзя не абмінулі Крынак і рэвалюцыйныя настроі. Жыдоўскае мястэчка са сваімі беднымі рабочымі вельмі было падатнае на заклікі да чалавечай справядлівасці і роўнасці, прытым і да змагання за зарплату, якая давала б шанц на выжыванне і захаванне чалавечай годнасці. Рэвалюцыя 1905 года і крынкаўскае анархістычнае паўстанне гэта адно з незвычайных падзей тадышняй Гарадзеншчыны і паэтапнае выспяванне беларушчыны, для якой толькі лозунгу «людзьмі звацца» ўжо было малавата. Мець свае газеты і кніжкі, змагацца за зямлю, ствараць беларускі палітычны рух і канспіраваць гэта рэальны вобраз беларускай Сакольшчыны, якая апынулася ў II Рэчы Паспалітай. А Крынкі ў сваім кутку заставаліся надалей важным мястэчкам са сваім шматнацыянальным багажом. Прыбыло толькі польскіх асаднікаў-легіянераў, задачай якіх было ўмацоўванне польскасці на няпэўнай зямлі не толькі словам.







### Разак з цесаком. Партрэт

Прыехаўшы ў пятніцу пасля поўдня ў Крынкі, адразу шпацыруў я ў суцішаныя вулачкі прываблівага мястэчка. Блукаючыся па чарговых завулках, перад вачыма мроіліся вобразы сівой даўніны. Са сваіх маленькіх крамак выбягаюць мясцовыя жыды і кожны запрашае ў свой інтарэс. Хтосьці прапануе іголкі, другі селядцы, трэці піроўную выпечку, пахучую цынамонам і ванілінам. А я не ведаю як яны называюцца, якія іхнія імёны і мянушкі. Ананімныя крынкаўскія жыды, беларусы, палякі, татары — самы просты шлях да бяспамяцтва. Я не тутэйшы. Хацелася б убачыць мне шыльды з іхнімі прозвішчамі, а ўсярэдзіне сямейныя здымкі. Раптам насупраць каўказскай сінагогі мой нос казычуць каўбасна-мясныя пахі. Перагрызаюцца яны з салодкасцю цыбулі, дададзенай да топленага шмальцу. Мае галодныя кішкі аўтаматычна накіроўваюць мяне ў мясную ятку. Дарогу паказваюць мне мухі-бзымкатухі, якія сваім гудзеннем, быццам пчалінага рою, стараюцца аблезці мясное багацце. Ого, перада мною не маленькі, драўляны домік. Салідны, мураваны дом з высокімі прыступкамі ўзвышаецца сваёй важнасцю. У ім, у першай, найбольшай зале гаспадарыць за прылаўкам мажны, барадаты, жыдоўскі разак. Яму пад два метры росту і з восем пудоў жывой вагі. У сваіх руках пamерамі буханак хлеба трымае вялікі цясак і крыху меншы кухонны нож. У маўчанні спраўляе бычка. Пра такога асілка гавораць, што нават адным ударам кулака ў лоб у змозе аглушыць і дарослага быка. Нават найбольшы крынкаўскі разбойнік-нажоўшчык, які распароў сваёй «касой» некалькі мясцовых жыватоў, усё ж такі пабойваецца вялікага кухоннага нажа разака. Пакорліва чакае сваёй чаргі па тушаныя на патэльні грудзінку і рэбры, якія, потым няспешна абгрызае. А з дапамогай вострага як брытва невялікага, складанага сцізорыка выкалупвае шпік з доўгіх каровіных костак. У такіх хвілінах крынкаўскі Мэкі-Нож спакайнее і не хоча ізноў трапіць у беластоцкую турму. Задумваецца нават над пошукамі сумленнай працы. За ім, перад шабашам, у чарзе паслухмяна стаяць хрысціянскія служанкі з багацейшых жыдоўскіх дамоў. Вернуцца хуценька на кухню, каб зварыць на костках булёнчык і пасмажыць адбіўныя для сваіх гаспадароў. Потым краму наведваюць татарскія суседзі ў пошуках кумпяка, якога спякуць у печцы з агароднінай. Побач цяляціны і ялавічыны заўсёды штодзённа чакае пакупнікоў адзін баранчык. Асаблівым попытам карыстаецца ён у мясцовых праваслаўных і каталіцкіх святароў. Святары прынцыпова не пераступаюць сваімі нагамі парога жыдоўскай яткі. Яны таксама маюць служанак, якія забяспечваюць ім маральнае права распавядаць у час сустрэч, што ніколі не купляюць у жыда. Потым аднак на плябаніі, пабласлаўшы печаную ў духоўцы бараніну, папіваюць яго з удзячнасцю чырвоным вінам. Не пашкодзіць час ад часу кульнуць і кручок манапольскі «Пан Бачынскі». Прынятыя градусы спачатку прыемна рэгулююць працу страўніка, затым паступова ўводзяць у дабрачынна-карысную для арганізма пасляабедзенную дрымоту. У такой святой справе няма мовы, каб тады нейкая падзея скалыхнула ўсталяваны парадак. Усіх наведвальнікаў у гэтую пару служанкі праганяюць з плябаній, быццам жыдоўскі мяснік мух ад свайго мяса.

Далей, у другім пакойчыку, на прылаўках красуецца ўсё, што называецца курыным, гусіным, качыным статкам. Ай, вай — выбірай, перабірай, купляй. Залатоўкі тут жа пакідай. З другога боку яткі ёсць яшчэ адзін, асобны ўваход у маленькі пакойчык, адгароджаны муравана сцяной ад уласцівай яткі. Гэта лаўка для мяне і іншых хрысціянскіх кліентаў, у якой толькі прадукты з некашэрнай свініны. Пакуль грошы не смярдзяць, то і свініна можа паказытаць насы жыдоўскіх артадоксаў на вуліцы. А тут сальцісоны, каўбасы, кашанкі, якіх паху і смаку не параўнаць нават з вырабамі ў недалёкай Індуры, ці Гродне. Ад імя разака інтарэсу і якасці вырабаў пільнуе тут ягоны хрысціянскі супольнік Вася. Ён нізкай сакольскай пароды і моцнага складу касцей. Адным словам — шыракаплечы і шырокагаловы. Ад добра з'едзенага і ў выходныя выпітага ягоны азадак памаленьку раўняецца з шырынёй плячэй. Клубы набіраюць кшталту і закругленасці на падабенства каня той жа славутай сакольскай пароды. Памаленьку ягоны твар наліваецца рознымі адценнямі чырвані, быццам тая спусканая юшка з вепрука, мяняючая сваю афарбоўку ў залежнасці ад надвор'я і часу. Вася са штораз большаю нахабнасцю патрабуе ад сваёй сям'і і пакупнікоў, каб усе штодзень звярталіся ўжо да яго: пан Вацак.

Мясны інтарэс ідзе паспяхова. Багацеючы разак вырашае сябе і сваю годную працу ўвекавечыць належным чынам. Не зробіць банальнай фатаграфіі, хаця б і найбольшай. Гэтым хай ганарацца дробныя краменкі. Заманулася яму зрабіць нешта такое, што застанецца навекі і не толькі ў сямейнай традыцыі. Абавязкова сваёй славай мусіць пераплюнуць абсталяванне мясцовай аптэкі. Там усё чыста, пахуча, акуратна і вытанчана. Усе пакорліва чакаюць робленых уручную лякарстваў. Тады, хочаш ці не хочаш, выпадае ўсім доўга любавацца мэбляй з дубу і пушчанскіх хвой. Не то, што ў мяне, думае кашэрны мяснік. Усе хочуць хутка купіць і бегчы далей. Ну і прытым смярдзюча.





У нервовасці паварочвае галаву ў бок люстра і ўзгадвае свае скрытыя захапленні. Ён ужо ведае. Яго распісаны партрэт як жыдоўскага першапраходца ўсе крынчане будуць глядзець проста на сцяне ўнутры яткі. Дагэтуль маглі яны глядзець роспіс толькі ў гродзенскай царкве. Заўсёды туды заходзіў, калі бываў у Гродне. Любаваўся ў цішыні барадатымі, старазаконнымі прарокамі. У душы нават спачуваў свайму пабрацiму Ісусу Хрысту, замучанаму са згоды суда аднапляменцаў. Падабаліся і хрысціянскія святыя, спаглядаючыя з ікон, развешаных на розных вышынях. Яго, крынкаўскага артадаксальнага жыда ў Гродне занадта не ведалі, таму без здзеку і падазронасці ў здрадзе з боку вернікаў свайго кагалу мог бяспечна пераступаць парогі хрысціянскага храма. Задуманае трэба было мяняць у рэальнае. Хутка распытаўся, якія цэны такіх паслуг, і пра прафесіянальных ды адказных майстроў жывапіснай справы таксама. Спачатку вельмі хацелася, каб партрэт намалявалі майстры з віленскай акадэміі мастацтваў. Аднак нават яму, крынкаўскаму, багатаму жыду, не было пад сілу справіцца з фінансавымі патрабаваннямі віленскіх мастакоў. Пэндзаль, трыманы імі ў кісці рукі, прысвечаны некалькі дзён толькі адной асобе, занадта дарога абыходзіўся яўрэйскай кішэні.

Тады параілі яму групу майстроў з магічнага Любліна пад кіраўніцтвам ураджэнца гайнаўскай зямлі Яна Грыкі. Той згадзіўся і са сваімі таленавітымі вучнямі і памагатымі завяршэнне ўсіх прац, звязаных з маляваннем ужывую партрэта крынкаўскага разака пачаў у мінулую пятніцу 1 верасня ў сямнаццаць гадзін. Праз гадзіну ўсе маглі ўжо захапляцца партрэтам жыдоўскага разака з цесаком. Яму самому вельмі спадабалася творчая праца з мастакамі і дазволіў на тэрыторыі ўсёй сваёй мяснай яткі адкрыць выстаўку пад назовам «Od René Magritte'a do nożownika z Krynek». І не змарнавалася пры нагодзе ані кропля спушчанай крыві з кашэрных жывёл. Кася Сянкевіч, таленавітая мастачка і заадно яшчэ не менш таленавітая беларуская паэтэса, скарыстала яе для мастацкага распісання плітак, якімі абкладзены сцэны аднаго з пакойчыкаў яткі. Пах крыві і вытопленага шмальцу, мабыць, некаторым нават прачысціў страўнікі. Ніхто ў гэтым не прызнаўся. Затое з упэўненасцю магу сказаць, што многім позняя вячэра з куском мяса не праходзіла праз горла. Жыдоўскі разак з Крынак у першы дзень трыялогу запісаўся не толькі трывала на сцяне сваёй яткі, але і ў памяці аматараў эстэтычных пошукаў.

(Працяг праз тыдзень.)

Яўген ВАПА

# Засталіся адно ўспаміны (19)

Цяжка ўзнаўляць мінулае без дакументаў ці навочных сведак прызабытых падзей. Так было і з Палічнай ды пабудовай святліцы і пажарнага дэпо. Калі я пачынаў заязджаць у сяло восенню 1962 года, святліца ў Палічнай якраз была ў будове. Работы ішлі шпаркімі тэмпамі. Грамадская рада нарадова, якая была заснавана рашэннем Ваяводскай рады нарадовай ў Беластоку ад 4 кастрычніка 1954 года і ахоплівала тэрыторыю васьмі вёсак: Белая Страж, Горны Груд, Курашава, Палічна, Старына, Вэрсток, Войнаўка і Вілюкі, паставіла амбітную мэту: здаць грамадству чым хутчэй святліцу ў карыстанне. І наступіў гэты дзень 28 жніўня — у палове шасцідзясятых гадоў. Дакладнага года не прыводжу, бо ніхто з жыхароў не памятае. Не знайшоў я таксама дакладнай даты ў камендатнта дзяржаўнай пажарнай каманды ў Гайнаўцы.

Я быў госцем урачыстага святкавання. Неафіцыйная частка адбылася на кватэры начальніка пажарнікаў Яна Пятрочука. Маім кампаньёнам пры застоллі быў сын гаспадара Пятрусь. Па даволі багатым пачастунку падаліся на мы пляцоўку побач святліцы. Там з прамовамі выступалі павятовы камендант пажарнікаў, гмінныя чыноўнікі, дзякаваў начальнік Пятрочук. Затым адбылося наведанне святліцы, а ў ёй памяшкання грамадскай бібліятэкі. Памятаю, што бібліятэкаркай была Люба Швед, якая пазней выйшла замуж за мясцовага кавалера Баравіка.

Па-мойму святкаванні адбыліся ў 1964 годзе, бо пасля кінасеансы дэманстраваліся ўжо ў святліцы. У начальніка пажарнікаў апрача Петруся быў малодшы брат Валодзя. Калі мы заязджалі з кінаперасоўкай, то ён вучыўся ў водна-меліярацыйным тэхнікуме ў Беластоку. У іх кватаравалі дзве настаўніцы: Надзея Карповіч (зараз Суліма) з Чаромхі і Надзея Майстровіч.

Прыпомнілася мне яшчэ адна падзея з гэтага часу, якая адбылася ў доме Яна Пятрочука. Было гэта на Гагатуху 1964 або 1965 года. Валодзя прыехаў на зімнія канікулы. Мы ў гэты дзень ставілі кінасеансы. Пасля кіно Ян Пятрочук запрасіў мяне на кватэру. У пакоі пры святочнай ёлцы былі Валодзя ў кампаніі кватарантак. Запрасілі мяне на пачастунак. У такой маладзёжнай кампаніі мы сустрэлі Новы год. Гэты вечар застаўся ў маёй памяці па сённяшні дзень. Здаецца, як бы гэта адбылося ўчора.

З жыхарамі Палічнай я не парваў кантактаў па сённяшні дзень. Тры гады таму, калі ў сяле арганізавалася Таварыства «Стакротка», мяне запрашалі на кожнае ладжанае ім мерапрыемства. Адчуваў я сябе членам палічанскай супольнасці. І зараз жыхарам гэтай ініцыятыўнай вёскі прыношу словы прызнання і падзякі за належнае фарміраванне міжлюдскіх адносін. (працяг будзе)

Палічанская святліца бурліць культурным жыццём больш за пяцьдзясят пяць гадоў. На здымку — публіка на вечары калядак у 2014 годзе. Фота аўтара.

❖Уладзімір СІДАРУК

## Цана абсурду і дурасці

Прэзідэнт Анджэй Дуда 17 красавіка падпісаў навелізацыю закона аб забароне прапагандавання камунізму, які рэгулюе пытанне зносу аб'ектаў непрыдатнага характару, напрыклад, помнікаў услаўляючых таталітарную сістэму. Гэта чарговае пытанне, якое дзеліць польскае грамадства. Адны даюць падтрымку для ўпраўляючых, іншыя выступаюць супраць новым правілам. Нікому не трэба тлумачыць, што савецкія салдаты пралівалі крою на польскай зямлі ў імя свабоды. Яны не ішлі прапагандаваць таталітарную сістэму, адно выконвалі загады камандзіраў у змаганні з фашыстамі. Ці палякі павінны зараз за гэта іх ганьбаваць і прышываць ім кляймо распаўсюднікаў камуністычнага таталітарызму? Гэта абсурд і дурасць, якія завядуць краіну ў тупік. Аб паслядоўнасцях новага закона лепш не гаварыць. Расея ўжо заяўляе, што прыме адпаведныя меры дыпламатычнага характару, не гаворачы аб выступленні на пасяджэнні Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

А што на гэта самаўрады? У Гайнаўцы радныя ўпраўляючай „добрай змены" прынялі рашэнне аб устараненні славутага танкаТ-34 са сквера перад будынкам староства. Застаўся адно пастамент. Іншай думкі самаўрад у Дубічах-Царкоўных. Яны не пагаджаюцца дэмантаваць помнік савецкім воінам, памяць якіх ушанавала супольнасць гміны.

— Калі 1 кастрычніка г.г. закон уступіць у сілу і падляшскі ваявода выдасць пастанову аб зносе помніка, дык прымем адпаведныя меры супраць рашэнню ваяводы, а нават выступім з пратэстам у суд, — заявіў мне ў размове сакратар гміны Мікалай Лаўрыновіч. І так быць павінна!

❖Уладзімір СІДАРУК

## Гістарычны факультэт

## http://history.gsu.by

Сярод беларускіх вышэйшых навучальных установ рэдка можна сустрэць такую, якая б распавядала пра сябе па-беларуску. Тое ж самае можна сказаць аб структурных падраздзяленнях гэтых ВНУ — факультэтах. Такія сапраўдныя, а не афіцыйныя рэаліі двухмоўя ў краіне, дзе трэці дзясятак гадоў кіруе прэзідэнт з сумнiўнай легітымнасцю. Разам з тым, усё ж існуюць навукоўцы, якія лічаць патрэбным распавядаць пра сябе і месца сваёй працы хаця б часткова на беларускай мове. Як адзін з нешматлікіх прыкладаў гэтаму — сайт гістарычнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.

Віртуальнае прадстаўніцтва факультэта месціцца ў інтэрнэце на платформе Wordpress па адрасе http://history.gsu.by і выглядае даволі просценька, хоць і змяшчае многа карыснай інфармацыі ў першую чаргу для тых, хто навучаецца гісторыі ў дадзеным універсітэце. Усе выйсці на рубрыкі знаходзяцца ўверсе выяўлення.

Найбольш карыснай для знаёмства з гомельскімі гісторыкамі, што выкладаюць і вучацца ва ўніверсітэце, падаецца рубрыка „Аб факультэце". Згодна размешчанай там інфармацыі, навучанне ў вну пачалося амаль адразу пасля вызвалення Гомеля ад гітлераўскіх захопнікаў у 1944 годзе. І ўжо ў 1948 годзе адтуль выйшлі першыя выпускнікі. Аднак пасля выпуску 1956 года падрыхтоўка гісторыкаў прыпынілася ажно да 1969 года.

„З 2005 года на факультэце вядзецца навучанне студэнтаў па праграме магістарскай падрыхтоўкі па дзвюх спецыяльнасцях: „Айчынная гісторыя" і „Усеагульная гісторыя". Студэнты факультэта актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім, культурна-масавым, спартыўным жыцці ўніверсітэта. Яны ўдзельнікі разнастайных мастацкіх гурткоў, спартыўных секцый, грамадскіх аб'яднанняў", — распавядаецца пра сучаснае жыццё факультэта на яго сайце.

Звесткі пра навуковую дзейнасць гомельскіх гісторыкаў знаходзяцца ў рубрыцы „Навука", калі зайсці ў аднайменную падрубрыку. Праўда, там чамусьці месцяцца не надта вялікі для такой гучнай назвы артыкул, у якім распавядаецца пра падзеі 2015 года. Яшчэ горш з аднайменнямі ў падрубрыцы „Студэнцкая навука", дзе апошні год, пра які распавядаецца, — 2014.

На факультэце чатыры кафедры — усеагульнай гісторыі, гісторыі славян і спецыяльных гістарычных дысцыплін, гісторыі Беларусі, філасофіі. Пазнаёміцца з публікацыямі выкладчыкаў, якія там працуюць, можна ў адпаведнай падрубрыцы. Дарэчы, кожная кафедра мае сваю падрубрыку на сайце, дзе, акрамя іншага, месцяцца навінныя паведамленні. Праўда, і там апошняе іх абнаўленне датуецца маем бягучага года. Па ўсім відаць, летам даныя падрубрыкі абнаўляць не было каму.

Вядзецца на гістарычным факультэце і пазалекцыйнае жыццё. Студэнты могуць прымаць удзел у працы разнастайных суполак. Пра іх можна даведацца на старонцы „Гурткі". Напрыклад, гурток „ТАмГА" — гэта студэнцкае навуковае таварыства аматараў гісторыі і археалогіі. Аматары краязнаўства гуртуюцца ў „Ваколіцу", а тым, каму падабаецца ўдзельнічаць у гістарычных рэканструкцыях, аб'яднаны ў „Белы крыж". Назва гуртка „Сябры музеяў" распавядае сама за сябе.

Сайт гістарычнага факультэта адметны яшчэ і публікацыяй крылатых выразаў гістарычных персанажаў. Выразы выпадкова выбіраюцца камп'ютарнай праграмай і месцяцца ўверсе з левага боку цэлага выяўлення.

❖Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара

Прэзідэнт БНР з Наваградчыны

# 100 гадоў з дня нараджэння Язэпа Сажыча

Беларускі грамадска-палітычны і вайсковы дзеяч Язэп Сажыч нарадзіўся 5 верасня 1917 г. у Гарадэчне пад Навагрудкам. Сям'я Сажычаў паходзіла з мясцовасці Нягневічы. Дзед Язэпа, Тамаш, адслужыўшы ў войску 25 гадоў, атрымаў дзве дзесяціны зямлі каля Навагрудка. Бацька Язэпа, Сымон Сажыч, які меў чацвярых дзяцей, на пачатку XX стагоддзя паехаў на заробкі ў ЗША, дзе жыў у Нью-Йорку, развозіў там піва. За зароблення грошы накіраваў старэйшага сына ў вышэйшую народную вучэльню ў Навагрудку. Даведаўшыся, што жонка памерла, вярнуўся ў Беларусь, дзе, дакупіўшы зямлі, ажаніўся з Верай Дарашэвіч. Памёр у 1919 годзе ад „гішпанкі". Язэп пэўны час навучаўся ў беларускай гімназіі, потым скончыў польскую гімназію ў Навагрудку. У 1938 г. мабілізаваны ў польскае войска, пасланы навучацца ў школе падхарунжых у Торуні, скончыў яе сяржантам.

Язэп Сажыч — удзельнік нямецка-польскай вайны 1939 г. ад самага яе пачатку, камандзір узвода. 14 верасня цяжка паранены, трапіў у нямецкі палон. Быў пераведзены ў шпіталь у Лодзі, адкуль праз Беласток вярнуўся ў Навагрудак. Працаваў скарбнікам у сельпо, пасля паступіў на ўлікова-эканамічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта. З нападам Нямеччыны на СССР мабілізаваны ў Чырвоную Армію, але дээртаваў і вярнуўся ў Львоў. Там працаваў у харчовай краме, супрацоўнічаў з украінскім рухам. Пазней вярнуўся ў Навагрудак, удзельнічаў у арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак. Служыў у Беларускай дапаможнай паліцыі. Летам 1942 г. прызначаны камендантам падафіцэрскай школы Беларускай народнай самапомачы. У лютым 1943 г. арганізаваў у Лідзе Беларускі батальён чыгуначнай аховы, фармаваў яго ў Маладзечне, Стоўпцах, Баранавічах. З ліпеня 1943 г. выкладаў у афіцэрскай школе ў Менску. Пасля таго, як немцы адсунулі ад кіравання беларусаў, стаў афіцэрам прапагандавага батальёна. На пачатку 1944 г. увайшоў у Беларускую краёвую абарону, кіраваў ротай. У чэрвені 1944 г. удзельнічаў у ахове Другога Усебеларускага кангрэса, уступіў у Беларускую незалежніцкую партыю.

З ліпеня 1944 г. у эміграцыі. Быў перавезены на французскую мяжу, у Саарбрукен. Там атрымаў загад пры першай магчымасці перайсці да французскіх партызан і ўсталяваць з імі кантакт ад імя падпольных беларускіх улад. Калі пра гэта даведалася СД, быў пераведзены ў Берлін. Удзельнічаў у стварэнні беларускага дэсантнага батальёна Дальвіц, увайшоў у склад 1-га кадравага батальёна БКА. У Баварыі выконваў функцыі каменданта афіцэрскай школы. Перад заканчэннем вайны паспеў яшчэ прайсці курсы ў нямецкай афіцэрскай школе ў Растоку. Канец вайны сустрэў у Турынгіі, там ажаніўся з Барбарай Мазурай. Потым перабраўся з сям'ёй у Гесэн. Там нарадзілася дачка Алена. Вывучаў медыцыну ў Марбургскім універсітэце, адначасна працаваў. У 1950 г. з дыпломам лекара выехаў у ЗША. Працаваў анестэзіёлагам. У 1961 г. нарадзіўся сын Язэп (пазней пратэстанцкі місіянер). Стаў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў штаце Мічыган, арганізаваў там праваслаўную парафію Святога Духа. З 1953 г. — сябра Рады БНР. Заснаваў аддзел Згуртавання беларускіх ветэранаў у Дэтройце, сакратар у справах ветэранаў пры Радзе БНР. У 1982-1997 гг. — старшыня Рады БНР. У сакавіку 1993 г. на 75-ыя ўгодкі БНР прыязджаў у Менск.

Памёр Язэп Сажыч 19 лістапада 2007 г. у г. Сент-Клер-Шорсе (Мічыган). Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку (Нью-Джэрсі).

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

